13 снежня 2019 | № 46 (657)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Як Буг стаў мяжой
Стар. 8

**4** ПЫТАННІ НАЗАПАСІЛІСЯ. ЗА РАБОТУ, ТАВАРЫШЫ ДЭПУТАТЫ!

У краінах-лідарах эліты не спрабуюць весляваць супраць плыні, чаго не скажаш пра краіны-ізгоі



**6–7** «КАЛІ ДЭЛЕГАЦЫЯ З'ЕХАЛА, МНЕ СКАЗАЛІ, ШТО Я БОЛЬШ НЕ ПРАЦУЮ»

Жыхарка Турава пабудавала ў родным горадзе аздараўленчы цэнтр з водалячэбніцай і за гэта апынулася без працы

**10** «Я НІКОЛІ НЕ ПРАБАЧУ БАЛЬШАВІКАМ ІХ ЗЛАЧЫНСТВАЎ»

Падзеі верасня 1939 года і саветызацыя заходніх абласцей БССР па сёння застаюцца малавядомымі старонкамі айчыннай мінуўшчыны



**11** ДАСЮЛЬ НЕ АДЗНАЧАНАЕ СВЯТА

Летась Беларусь забыла адзначыць важны дзень — стагоддзе таго, калі беларускі ўпершыню атрымалі правы голасу на выбарах

# Ці будзе новая Плошча?



Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Напярэдадні меркаванага падпісання дарожных картаў паглыбленай інтэграцыі Беларусі і Расіі Мінск ахапілі вулічныя пратэсты, кропка ў якіх яшчэ не пастаўленая.**

У «жывы ланцуг» ад Белдзяржцырка да Галоўпаштамта, анансаваны 7 снежня грамадзянскай кампаніяй «Свежы вецер», злучыліся некалькі соцень беларусаў. На заклік сустаршыні аргкамітэту незарэгістраванай партыі БХД Паўла Севярынца выйсці ў гэты ж дзень на плошчу Каліноўскага (Кастрычніцкую) адгукнуліся не менш як 750, а то і 1000 чалавек. Як пазней прызнаўся сам палітык, ён думаў, што людзей збярэцца менш. Больш за тое: сам Севярынец меркаваў, што ён не трапіць на акцыю, паколькі напярэдадні яго судзілі за ўдзел у лістападаўскіх вулічных маршах, і палітык чакаў адпраўкі на суткі ў ізалятар на Акрэсціна.

Як ні дзіўна, і Севярынец застаўся на волі, і стыхійныя акцыі ў сталіцы ніхто не разганяў, хаця міліцыянты папярэджвалі пра тое, што яны не дазволеныя Мінгарвыканкамам. Але, відаць, беларускім уладам трэба было падчас перамоваў паказаць расійскаму кіраўніцтву карцінку: маўляў, глядзіце, беларускі народ супраць інтэграцыі, таму на прапанаваных умовах злучацца з Расіяй у саюзную дзяржаву не ўяўляецца магчымым. Хаця што гэта за ўмовы, беларускае грамадства не ведае, паколькі змест перамоваў і дарожных картаў трымаюцца ў сакрэце.

Пасля пяцігадзінных перамоваў 7 снежня, ні Лукашэнка, ні Пуцін не зрабілі заяваў для прэсы, а 8 снежня ніякіх пагадненняў так і не падпісалі. Больш за тое, як сцвярджаюць некаторыя крыніцы, кіраўнікі дзвюх краін сур'ёзна пасправаліся.

Таму, хаця пратэстныя акцыі ў Мінску не дужа ўразілі маштабам, але звыклага расчаравання ва ўдзельнікаў не пакінулі. Бо, прынамсі, дэманстратыўную задачу яны дакладна выканалі, — а заадно паспрыялі адтэрміноўцы аншлюсу.

Шчыра здзівіла тое, што ў другі дзень народных хваляванняў, 8 снежня, на спантанна анансаваную тым жа Севярынцам акцыю выйшла амаль столькі ж людзей, колькі і ў папярэдні. І гэта стала яшчэ адным сігналам: беларускі народ гатовы бараніць сваю незалежнасць. Бо яна, як бы ні сцвярджаў адваротнае адзін вядомы палітык, проста так на галаву не звальваецца. І калі цяпер не прыкладаць высілкаў дзеля яе захавання, вярнуць яе назад пасля страты будзе амаль немагчыма. Асабліва яскрава мы гэта бачым па тым, як паводзіць сябе наш усходні сусед ва Украіне. Ён пляваць хацеў на міжнародныя пагадненні. І пакуль на Данбасе працягваюць гінуць украінскія вайскоўцы, абараняючы сваю зямлю, прадстаўнікі еўрапейскіх структур могуць толькі выказваць занепакоенасць.

Ёсць адчуванне, што, зважаючы на гэты досвед, беларуская дэмакратычная грамадскасць, якая ў мінулыя выходныя заявіла рашучы пратэст супраць інтэграцыі, яшчэ не да канца паказала свой патэнцыял. І гэта цалкам зразумела, бо, якія б чуткі ні хадзілі вакол саюзных дакументаў, рэальнай пагрозы ад іх пакуль ніхто ацаніць не можа. Цяпер адбываецца гэткае прамацванне глебы: нам укідваюць порцыі «зліваў» зместу дарожных карт — і глядзяць, як мы на іх адрэагуем. Але і беларус не такі просты, каб адразу раскрываць усе свае карты. Каб грамадскі супраціў паказаў сябе напоўніцу, павінна паўстаць сітуацыя, з якой не будзе іншага выйсця, акрамя змагання.




Ці складзецца такая сітуацыя падчас наступнай спробы перамоваў паміж Лукашэнкам і Пуціным, якая павінна адбыцца 20 снежня? Тут шмат залежыць ад таго, пад якім соусам пра вынікі гэтай сустрэчы паведамяць грамадству, а таксама ад дзеянняў беларускіх уладаў. Бо варта ўзгадаць, што, хоць дэманстрантаў 7 і 8 снежня не затрымлівалі, але да будынку расійскай амбасады сагналі кардоны амапаўцаў ды аўтобусаў з «касманаўтамі». Маўляў, вы сабе пратэстуйце, але ў любы момант спартовыя хлопцы гатовыя выканаць каманду па зачыстцы.

> **Адбываецца прамацванне глебы: нам укідваюць порцыі зместу дарожных карт — і глядзяць, як мы адрэагуем**

І яшчэ немалаважна, які сцэнар прапануе беларусам апазіцыя. Але тут прагнозы досыць аптымістычныя, бо той жа Павел Севярынец у сваім фэйсбуку паведаміў, што да планаванай акцыі 20 снежня прыкладуць руку не толькі палітыкі, але таксама творчыя людзі і блогеры. Таксама, каб захаваць і ўзмацніць энергію і натхненне ад апошніх пратэстаў, палітык прапанаваў усім ахвотным выказваць свае крэатыўныя ідэі правядзення маючага адбыцца мітынгу. Калі спантанны супраціў без уяўнага сцэнару здолеў сабраць тысячу чалавек, то ёсць верагоднасць, што на падрыхтаваную, хоць і ў сціслыя тэрміны, акцыю, збярэцца яшчэ больш беларусаў.

Увогуле, гэта стала ўжо традыцыяй беларуска-расійскіх адносін: напярэдадні кожнага Новага года праводзіць перамовы, якія трымаюць у напружанні ангажаванае ў палітычныя працэсы грамадства. І яшчэ адна традыцыя гістарычна склалася: усе самыя гарачыя грамадскія пратэсты ў Беларусі чамусьці прыпадаюць на самую халодную пару года. Узгадайма сакавіцкую Плошчу–2006 ці Плошчу–2010, якая разгарнулася ў снежаньскія маразы. Так што ні да перадпнавагодніх «сюрпрызаў» ад кіраўніцтва «братняга народа» нам не прывыкаць, ні да неспрыяльных умоваў надвор'я падчас народнага супраціву. Дасць Бог, адновім яшчэ адзін добры беларускі звычай: адстойванне сваіх гонару і годнасці.

# Не — пракладцы кабеля ў ахоўнай зоне Курапатаў!

Марат ГАРАВЫ

**Каардынатар грамадзянскай ініцыятывы «Эксперты ў абарону Курапатаў» звярнуўся да міністра культуры Юрыя Бондара з просьбай адклікаць дазвол на пракладку кабеля ў ахоўнай зоне ўрочышча.**

У звароце згадваецца, што 29 лістапада ў вясковым доме культуры аграгарадку Лясны пад Мінскам адбылося грамадскае абмеркаванне праекту кампаніі А-100 па пракладцы кабеля.

Падчас грамадскага абмеркавання адзначалася, што ў ахоўнай зоне гісторыка-культурнай каштоўнасці міжнароднага значэння «Месца згубы ахвяраў палітычных рэпрэсій 30-х — 40-х гадоў ХХ стагоддзя ва ўрочышчы Курапаты» на паўночны захад ад яе раней ужо была пракладзена дзеючая траса інжынерных камунікацый (для вады, газу, электрычнасці, цяпла, тэлефоннай сувязі і каналізацыі). Пракласці новую трасу пад кабель у 10 кілавольт плануецца побач з гэтай дзеючай трасай.

Апроч таго, каля паловы даўжыні трасы запланаванай пракладкі кабеля ўздоўж Заслаўскай шашы таксама праходзіць не ў створы існуючай трасы інжынерных камунікацый у паласе адводу аўтадарогі, а ў ахоўнай зоне Курапатаў.

Архітэктары — аўтары праекту пракладкі кабеля не звярталіся да археолагаў Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі з пытаннямі, што тычацца навуковага суправаджэння названага праекта.

Паколькі пракладка ў ахоўнай зоне Курапатаў новага кабеля супярэчыць заканадаўству, міністра просяць адклікаць адпаведныя дазволы на гэтыя працы, што выдала Міністэрства культуры.

# Умееш працаваць? Трымайся далей ад Расіі!

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Тыя беларускія кампаніі, якія нешта ствараюць, не хацелі б працаваць з Расіяй. Прынамсі, яе, здавалася б, агромністы рынак — для іх не прыярытэт. Пра гэта сведчаць дадзеныя digital-агенцтва Artox Media Digital Group.**

У рамках конкурсу «Народная марка» згаданае агенцтва правяло апытанне, пра якія рынкі мараць беларускія кампаніі — у асноўным з лёгкай прамысловасці. Высветлілася, што самыя папулярныя сярод беларусаў брэнды — пераможцы конкурсу «Народная марка–2020», — не вельмі разлічваюць на ўсходнюю суседку.

Па выніках апытання высветлілася, што традыцыйную большасць у жаданнях гандляваць набіраюць краіны Еўрасаюза — 37,5% усіх апытаных. Яшчэ 22,5% кампаніяў у перспектыве разглядаюць супрацоўніцтва з Азіяй у самым шырокім сэнсе гэтага слова — ад Казахстана да Японіі і Кітая.

Прадстаўнікі 12,5% брэндаў пажадалі размяшчаць свае тавары на паліцах крамаў Паўночнай Амерыкі.

Вельмі цікавая гэтая статыстыка па галінах прамысловасці. Вялікі блок брэндаў харчовай прамысловасці марыць пра скарэнне ўсяго свету. І на гэта маюцца падставы, бо есці людзі не перастануць ніколі. Таму сярод класічных напрамкаў — Германія, Польшча, Казахстан і Кітай — аказаліся і адносна экзатычныя Японія, Манголія і Аўстралія.

Кампаніі, што вырабляюць прадметы інтэр'еру, мараць заваяваць рынкі Канады, Нарвегіі, Англіі і Іспаніі. Вытворцаў адзення прыцягваюць Італія і Чэхія.

Толькі тры кампаніі-брэнда бытавой хіміі ў якасці рынку прывабліваюць Расія і Кітай. А вось рэкламны бізнес з задавальненнем папрацаваў бы ў краінах-суседках: Украіне і Расіі.

Усяго ў апытанні прынялі ўдзел 40 кампаній. Няшмат, але выснова даволі відавочная. Усе, хто стварае прадукцыю, амаль не разглядаюць Расію ў якасці гандлёвага партнёра.

Чаму расійскі — здавалася б, родны і велізарны — рынак не прываблівае, а адштурхоўвае беларусаў — вытворцаў прадукцыі? Часткова на гэта некалькі дзён таму даў адказ генеральны пракурор Беларусі Аляксандр Канюк. Паводле яго дадзеных, на 1 кастрычніка гэтага года запазычанасць расійскіх прадпрыемстваў перад беларускімі суб'ектамі гаспадарання складала каля 2,1 мільярда (!!!) долараў!

Генпракуратура займаецца пытаннямі пратэрмінаванай дэбіторскай запазычанасці ўжо пяць гадоў. За гэты час было распачата больш за 100 крымінальных спраў, удалося вярнуць больш за 100 мільёнаў долараў. Цяпер заяўлена больш за 400 пазоваў на суму больш за 130 мільёнаў долараў.

Зразумела, вытворцы хочуць атрымаць грошы за сваю прадукцыю. А вось гэтага «партнёры» ў Расіі якраз і не гарантуюць.

# «Хто нас можа абараніць? Толькі мы самі»

Алесь БЯЛЯЦКІ

**Падводзячы вынікі году, даводзіцца прызнаваць, што вялізныя праблемы ў галіне правоў чалавека, якія былі закладзеныя аўтарытарнай уладай за папярэднія дзесяцігоддзі, засталіся.**

Ніякіх сур'ёзных прарываў не адбылося. Мы маем недэмакратычнае заканадаўства, якое моцна абмяжоўвае правы і свабоды грамадзян. Аўтарытарызм абараняецца выгоднымі для яго законамі.

Ёсць вялікія абмежаванні і забароны на свабоду сходаў. Гэта з'яўляецца асноўнай прычынай бясконцых адміністрацыйных судовых працэсаў. У гэтым годзе ўжо было больш за дзвесце такіх судоў. Хаця ўдзельнікі масавых акцый і нават адзіночных пікетаў проста хацелі звярнуць увагу на сур'ёзныя праблемы ў жыцці нашага грамадства, якія тычацца ўсіх. Але ўлады не хочуць бачыць гэтыя праблемы і караюць удзельнікаў акцый. Трэба сказаць, што штрафы вялікія. Такім чынам дзяржава б'е па кішэні людзей, незадаволеных несправядлівасцю ўладаў.

Права на распаўсюд інфармацыі, як і права на мірныя сходы, гарантавана Канстытуцыяй і міжнароднымі пагадненнямі, якія падпісала, але не хоча выконваць Беларусь. Тым не менш, мы бачым, як на працягу года пераследаваліся неакрэдытаваныя журналісты. Але асноўны ўдар быў накіраваны на блогераў. Памятаем гучны крымінальны працэс над брэсцкім народным журналістам Сяргеем Пятрухіным, які крытыкуе ў сваім рэгіёне і карупцыю сярод чыноўнікаў, і здзекі праваахоўнікаў з простых людзей. Вось і вырашылі праз суд фактычна заткнуць яму рот, і зараз ён абавязаны заплаціць амаль 10 тысяч долараў. Знялі, як кажуць, апошнія штаны, добра, што хоць не пасадзілі.

Ціснуць на блогераў з Оршы, Бярозы, Мінска… Відавочна, што ўлады баяцца распаўсюду праўдзівай, часта для іх непрыемнай інфармацыі, якая ідзе з першых вуснаў звычайных людзей.

Нягледзячы на тое, што ідуць бясконцыя суды над высокімі чыноўнікамі за хабар, за перавышэнне паўнамоцтваў, карупцыя на ўсіх узроўнях глыбока ўелася ў цела гэтай улады. А выбараў, як інструмента зменаў карумпаванай улады, у дзяржаве няма.

У такой сітуацыі зразумелая нелюбоў уладцаў да постаці Кастуся Каліноўскага, бо ён заклікаў уладу служыць народу. У нас атрымліваецца ўсё наадварот. Улада грэбуе людзьмі, не слухае нас, лічыць усіх нас нядольнымі недарэкамі і сама вырашае, што белае, а што чорнае, каго памілаваць, а каго пакараць.

Як мы ні б'емся за адмену смяротнага пакарання, тлумачым, што гэта нецывілізавана і негуманна, што так нельга, што ў Еўропе ніхто з вамі не будзе рукацца, пакуль што нам не ўдаецца дагрукацца да чыгунных уладных ілбоў.

Таму карціна не вельмі вясёлая. Пасля выбараў мы бачым незвычайны ўсплёск рэпрэсіяў супраць грамадскіх актывістаў, блогераў і журналістаў. Цяпер кожны дзень ідуць адміністрацыйныя працэсы. І ўсё гэта адбываецца падчас нервовага абмеркавання дакументаў па інтэграцыі з Расіяй, якія збіраюцца падпісаць. Што будзе падпісваць — невядома. З думаючай інтэлігенцыяй, палітычна актыўнымі грамадзянамі ніхто не раіцца. Чарговы раз беларускі народ без нашай згоды збіраюцца ажаніць.

Даводзіцца канстатаваць, што ўсе рэпрэсіўныя інструменты ўлады засталіся, яны нікуды не зніклі. У любы момант колькасць рэпрэсаваных можа павялічыцца ў дзясяткі разоў, што ўжо было ў сучаснай гісторыі Беларусі. Паліцэйская дзяржава, што і сказаць.

Што рабіць у гэтай сітуацыі? Хто нас можа абараніць? Толькі мы самі! Нам, грамадзянам Беларусі, неабходна дамагацца станоўчых зменаў у захаванні правоў чалавека ў краіне! І гэта магчыма!

Сёлета быў адменены артыкул, які прадугледжваў крымінальную адказнасць за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Супольныя намаганні людзей, чые блізкія адбываюць непрапарцыйна цяжкія пакаранні па «наркатычным» артыкуле, прывялі да таго, што ўлады вымушаныя былі пайсці на саступкі. У Брэсце працаўнікі будаўніцтва акумулятарнага завода, нягледзячы на рэпрэсіі і правакацыі з боку ўладаў, дамагліся таго, што прадпрыемства «замарозілі». Адным словам, разам мы можам дасягнуць канкрэтных вынікаў, і гэта станоўчы момант.

Мы, грамадзяне, павінны самаарганізоўвацца, а не гуляць у гульні, якія навязваюць нам гэтыя самапрызначэнцы. Мы павінны адкрыта выказвацца, пратэставаць, адгукацца на несправядлівасць з боку ўладаў, калі бачым і адчуваем яе. Трэба бараніць тыя правы, якія нам гарантаваны Канстытуцыяй. Мы не павінны дапускаць, каб лёс народа самастойна вырашаў адзін чалавек. Я глыбока перакананы ў тым, што незалежнасць, дэмакратыя і правы чалавека ідуць у адной моцнай звязцы. Гэта той непахісны трыумвірат каштоўнасцяў, які, на мой погляд, і павінен вывесці беларусаў на чысты і шырокі шлях.

# Ці пражыве Беларусь без расійскіх датацый?

**Нядаўнія перамовы Аляксандра Лукашэнкі і Уладзіміра Пуціна ў Сочы праходзілі ў фармаце «палітыка ў абмен на эканоміку». Няўзброеным вокам відаць, што беларускім уладам у 2020 годзе вельмі патрэбныя расійскія грошы. Узамен расіяне звыкла патрабуюць саступак на ніве «інтэграцыі» дзвюх краін.**

Але ці сапраўды Беларусі настолькі крытычна патрэбныя расійскія датацыі ў наступным годзе?

«Калі палічыць тыя сумы, якія Беларусі давала Расія — да падатковага манеўру, у якасці крэдытаў, якія ішлі на рэфінансаванне даўгоў, — агулам набіраецца дзесьці 1,6 мільярда долараў, — распавёў у каментары «Салідарнасці» доктар эканамічных навук Барыс Жаліба. — Але Мінфінам ужо звярстаны бюджэт па суверэнным сцэнары: з разліку таго, што мы нічога не атрымаем ад Расіі ў 2020 годзе. У гэтым выпадку будзе выкарыстоўвацца рэзерв, назапашаны за кошт прафіцыту бюджэту, які назіраўся ў мінулыя гады. Гэта значыць, наступны год мы так-сяк пражывем. А вось далей наступае сітуацыя поўнай нявызначанасці».

Па словах эканаміста, асноўная праблема Беларусі ў тым, што каля 75% знешняга доўгу краіны даводзіцца рэфінансаваць — гэта значыць, прыцягваць новыя крэдыты, каб абслугоўваць крэдыты, узятыя раней. І лягчэй за ўсё гэта зрабіць за кошт расійскіх грошай, а значыць — уладам жыццёва важна дамовіцца з Расіяй.

Акрамя таго, рубам стаіць пытанне цаны на расійскі газ, які цяпер Беларусь закупляе па 127 долараў за тысячу кубаметраў.

«Калі кошт на газ будзе рынкавы, то пацерпіць і насельніцтва, і прадпрыемствы. Беларускі бок цяпер спрабуе атрымаць унутрырасійскую цану ў раёне 70 долараў, плюс выдаткі на транспарціроўку. Але гэтага, напэўна, не будзе. Хутчэй за ўсё, захаваецца цяперашняя цана», — лічыць Барыс Жаліба.

Але эканаміст упэўнены, што беларуская эканоміка цалкам можа «зацягнуць паясы» і абысціся без расійскіх грошай дзеля суверэнітэту. «У свой час краіны Балтыі гэта зрабілі, калі з-за газавых рознагалоссяў насельніцтва мерзла некалькі зімаў як мінімум. Але нічога, выстаялі. Я лічу, што і нам трэба такую пазіцыю заняць: у першую чаргу суверэнітэт, таму што канчатковая мэта Пуціна празрыстая і зразумелая — цалкам або шасцю абласцямі, калі ласка, просім у Расію», — папярэдзіў эканаміст.

**Паводле gazetaby.com, пераклад НЧ**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Мы гатовыя?

Сяргей САЛАЎЁЎ




**Галоўным вынікам мінулага тыдня, безумоўна, была безвыніковасць. Лукашэнка і Пуцін, паразмаўляўшы пяць з паловаю гадзін, так і не прыйшлі да нейкай пэўнай высновы. Спрэчныя пытанні інтэграцыі засталіся няўзгодненымі. І, адпаведна, 8 снежня, у 20-ю гадавіну стварэння «Саюзнай дзяржавы», нічога падпісана не было.**

З таго, што вядома, — так і не ўзгодненыя 8 дарожных картаў з 31-й. Але гэта насцярожвае, таму што зместу ўзгодненых 23-х мы дасюль не ведаем. Відавочна, што расійскі бок не пагадзіўся на «роўныя ўмовы гаспадарання» беларускіх і расійскіх прадпрыемстваў, на чым перад пачаткам сустрэчы настойваў Лукашэнка.

Магчыма, не падпісалі чарговыя ўмовы пастаўкі ў Беларусь нафты і газу. Але гэтая сітуацыя нам даволі звыклая — ужо не першы раз бакі падпісваюць энергетычныя дамовы ледзь не пад «бой курантаў». Тут нічога дзіўнага няма.

Наступны раўнд перамоваў запланаваны на 20 снежня. Грамадзянская супольнасць у гэты дзень рыхтуе акцыі ў абарону незалежнасці.

Між тым, ужо зараз вядома, што і 20-м снежня перамоўныя бакі не абмяжуюцца. Гандаль ідзе даволі сур'ёзны. 10 снежня Лукашэнка паразмаўляў па тэлефоне з расійскім прэм'ерам Дзмітрыем Мядзведзевым. «Бакі абмеркавалі вынікі праведзеных 7 снежня ў Сочы беларуска-расійскіх перамоваў, далейшую працу па напаўненні інтэграцыйнага парадку дня, развіцці гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва, зняцці праблемных пытанняў у гэтай сферы. Лукашэнка і Мядзведзеў дамовіліся аб працягу кантактаў, каб да новага года зверыць гадзіннікі па адпаведнай праблематыцы», — гаворыцца ў паведамленні прэс-службы кіраўніка Беларусі.

Галоўнае ж у гэтым паведамленні — тое, што па заканчэнні размовы Аляксандр Рыгоравіч даў даручэнне кіраўніку сваёй адміністрацыі «знайсці ў графіку час для візіту расійскага прэм'ера ў Беларусь пасля 20 снежня і асабістай сустрэчы з Мядзведзевым». То-бок, на вырашэнне праблемаў з Пуціным 20 снежня беларускі правадыр не спадзяецца.

Больш за тое, Лукашэнка не выключыў, што «магчыма, яшчэ прыйдзецца пасля 20-га сустрэцца і з кіраўніком Расіі, каб ужо канчаткова расставіць кропкі над «і» па найважнейшых пытаннях функцыянавання дзвюх дзяржаў і, галоўнае, нашых эканомік».

Такія дваістыя фармулёўкі можна ўспрымаць па-рознаму. З аднаго боку, можна палічыць, што кіраўнік краіны асэнсаваў умовы, выкладзеныя яму Пуціным за пяцігадзінную размову, і вырашыў, што ён можа прапанаваць і чым ахвяраваць. З іншага — ён сам не верыць у «канчатковае яднанне» і не збіраецца такога дапускаць. Інакш бы размова не ішла пра «функцыянаванне дзвюх дзяржаў і, галоўнае, нашых эканомік». Ключавое слова тут — «дзвюх».

А значыць, беларускай дэмакратычнай супольнасці прыйдзецца рыхтавацца да працяглай барацьбы за незалежнасць і суверэнітэт па ўсіх франтах. Можна сказаць, што яна выйграла першы бой акцыямі 7 і 8 снежня: відавочна, інфармацыйныя рэсурсы нашай «саюзніцы» такога не чакалі. А цьмяны тэлеграм-канал «Пул Першага» і ўвогуле паспрабаваў прадставіць масавыя гулянні апазіцыі ў Мінску як «акцыі ў падтрымку інтэграцыі». Але такая нахабная хлусня нікога не ўразіла.

**Анідзе не было акцый у падтрымку ўключэння Беларусі ў склад Расіі. Не тое, што масавых акцый, наогул ніякіх — нават адзіночных пікетаў. Як у Расіі, так і ў Беларусі не знайшлося ніводнага дзівака, які б выйшаў на вуліцу з плакатам пра неабходнасць стварэння «саюзнай дзяржавы»**

Разгубленасць расійскіх СМІ можна зразумець: яны трапілі ў «прапагандысцкую пастку». Напярэдадні перамоваў Лукашэнкі і Пуціна яны стваралі прыгожыя паветраныя замкі, публікавалі «сацапытанні», па якіх ледзьве не 90% беларусаў чакаюць расіянаў з шырокімі абдымкамі і братнімі пацалункамі. І так гэтым захапляліся, што самі ў тое паверылі. А ў выніку аказалася, што Мінск выходзіць на відавочна несанкцыянаваныя акцыі, толькі б не яднацца з усходнім партнёрам.

Але і гэта яшчэ не ўсё. Расійскі тэлеграм-канал з яскравай назвай «Сярпом па», заўважыў іншае. Паводле яго, анідзе не было акцый у падтрымку ўключэння Беларусі ў склад Расіі. «Не тое, што масавых акцый, наогул ніякіх — нават адзіночных пікетаў. Не знайшлося ў Расіі ніводнага дзівака, які б выйшаў да Крамля з плакатам пра неабходнасць стварэння «саюзнай дзяржавы»... Можна сказаць, што ў адказны момант народ Расіі прызнаў незалежнасць Беларусі, на яе не замахваецца», — было зазначана па выніках выходных.

Такім чынам, барацьба за незалежнасць будзе працягвацца. Але, насамрэч, палягаць яна будзе не толькі ў відовішчных пратэстах. Яна будзе іншай, і вельмі цяжкай.

Пра гэта на бізнес-партале officelife выдатна напісаў эканаміст Леанід Фрыдкін. Зразумела, зазначае ён, па беларускіх мерках, выйсці на акцыю пратэсту, тым больш несанкцыянаваную, — учынак. Але колькі набярэцца тых, хто гатовы трываць эканамічнае бязладдзе некалькі гадоў дзеля суверэнітэту краіны?

Падаражэюць бензін і камуналка. Усякія рос-за-ўсім-нагляды раптам стануць выяўляюць у беларускіх таварах невядома што, але безумоўна шкоднае, «дочкі» расійскіх банкаў пачнуць сінхронна гуляць на паніжэнне беларускага рубля, а ў транзітных грузах, якія дастаўляюцца беларускімі перавозчыкамі, расійскія мытнікі будуць па тры тыдні шукаць кантрабанду. «Вось тут і пачнецца сапраўднае выпрабаванне "на незалежнасць". Ці гатовыя мы пражыць хоць адну халодную зіму, як калісьці нашы суседзі? Ці хопіць нам сілаў на жывы ланцуг паўсядзённых прац і цярплівасці дзеля ўмацавання суверэнітэту ва ўмовах сусветных цэн на энерганосьбіты і структурнай перабудовы эканомікі? Ці хопіць ва ўладаў мужнасці на гэтую перабудову, або яна прагне дурыць галовы сабе і нам казкамі аб павышэнні эфектыўнасці дзяржсектара і ўмацаванні дысцыпліны?» — піша Фрыдкін.

Адзінае, што можна знайсці ў гэтай сітуацыі ў падтрымку саміх сябе, сказаў мне неяк мой украінскі сябра Дзмітро Крапівенка. Ужо пасля Крыму і Данбасу, нягледзячы на вайну, на абвал эканомікі, ён заўважыў: «Ніводная краіна, якая адарвалася ад Расіі, не пашкадавала пра гэта».

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Генадзь Фядыніч



**Знішчаны сайт прафсаюзу РЭП — асноўнай цяпер сілы па абароне правоў працоўных. Кажуць, што гэта адбылося нібыта з-за «аварыйнага адключэння электрычнасці».**

Менавіта так патлумачыла тэхнічная служба хостэра CoolServe Corporation праблемы з рэсурсам, адмовіўшыся аднаўляць дыск, на якім захоўвалася база даных. Бо гэта, па іх словах, «занадта дарагая паслуга».

Праблемы з доступам да сайта пачаліся ў другой палове дня 1 снежня. На працягу некалькіх дзён хостэр абяцаў аднавіць доступ да рэсурсу, аднак 3 студзеня паведаміў, што база даных praca-by.info «занадта сур'ёзна пашкоджаная, каб яе можна было аднавіць».

Прадстаўнік тэхпадтрымкі CoolServe Corporation сказаў, што «ўсе правайдары падаюць сэрвіс "як ёсць" — гэта значыць, не нясуць адказнасці за страты, якія ўзніклі ў ходзе эксплуатацыі абсталявання. Інакш яны былі б банкрутамі».

Адзін з лідараў прафсаюзу Генадзь Фядыніч сумняваецца ў шчырасці хостэра. «Я б мог зразумець адключэнне электрычнасці ў глухім калгасе "40 гадоў без ураджаю". Але ўявіць падобнае ў Мінску, дзе знаходзіцца тэхнічная служба, якая абавязаная мець на такія выпадкі запасны генератар, для мяне немагчыма. Гэта больш нагадвае спланаваную дыверсію. Тым больш, што хостэр так і не назваў тых, хто яшчэ пазбавіўся сваіх сайтаў», — адзначыў ён.

Прэс-служба прафсаюза не можа аднавіць сайт у ранейшым выглядзе і вымушана ствараць рэсурс практычна з нуля. Зараз каманда praca-by.info робіць усё магчымае для запуску новага сайта.

## Павел Севярынец



**Сустаршыня аргкамітэту па стварэнні партыі БХД, безумоўна, з'яўляецца героем мінулага тыдня. Менавіта ён заклікаў правесці акцыі ў падтрымку незалежнасці, якія выклікалі вялікі рэзананс і падтрымку ў грамадстве.**

Напярэдадні Севярынца аштрафавалі за ўдзел у масавай акцыі. Тым не менш, ён адзначыў, што яго не ізалявалі. «І гэта ясны сігнал: на гэтым этапе ўлада сама зацікаўленая ў масавых пратэстах за незалежнасць», — пісаў палітык, і не памыліўся.

«Калі Лукашэнка і Пуцін будуць размаўляць пра дзяржаўную здраду, любы пратэст выбухае ў інфармацыйнай прасторы. Нават калі на вуліцы трыста спартанцаў на чале з Нінай Багінскай, пяцьдзясят журналістаў і сотня ціхароў», — адзначаў Севярынец, і не памыліўся зноў. На вуліцы выйшлі каля тысячы чалавек, але розгалас у Беларусі і за яе межамі акцыя ў падтрымку незалежнасці атрымала велізарны.

Цяпер палітык кажа, што супакойвацца рана, і рыхтуе новыя вулічныя выступы на наступны раўнд перамоваў Пуціна і Лукашэнкі.

## Алесь Бяляцкі



**Былы палітвязень і знакаміты праваабаронца стаў лаўрэатам прэміі «За правы чалавека і вяршэнства закона». Пра гэта паведамілі пасольствы Францыі і Германіі ў Беларусі, бо гэта — французска-германская прэмія.**

З 2016 года гэтая прэмія штогод прысуджаецца тым, хто ўносіць выключны ўклад у абарону і прасоўванне правоў чалавека і вяршэнства закона ў сваіх краінах і на міжнародным узроўні. Яна нагадвае пра бесперапынную працу Германіі і Францыі ў справе захавання правоў чалавека і спрыяе ўзмацненню іх супрацоўніцтва ў гэтым кірунку.

Дзейнасць праваабаронцаў неабходная для прыцягнення грамадскай думкі, для мабілізацыі грамадзянскай супольнасці і для падтрымкі ахвяраў парушэння правоў чалавека, а таксама для забеспячэння эфектыўнага выканання дзяржавамі ўзятых на сябе абавязацельстваў у гэтай галіне. Германа-французская прэмія «За правы чалавека і вяршэнства закона» была створана для таго, каб аддаць даніну тым жанчынам і мужчынам, якія цалкам абараняюць правы чалавека і дзейнасць якіх павінна вітацца і падтрымлівацца.

Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Пытанні назапасіліся. За работу, таварышы дэпутаты!

**Паводле афіцыйнай версіі, беларусам выпала шчасце жыць у пераходны перыяд. Не мы — першыя, не мы — апошнія.**

Кожная краіна, нават тая, што прэтэндуе на ролю аднаго з полюсаў у сучасным свеце, — усяго толькі трэска ў бурных водах гісторыі. Адрозніваюцца краіны паміж сабой толькі ступенню разумення элітамі напрамку мэйнстрыму (англ. mainstream — «асноўная плынь»).

У краінах-лідарах эліты не спрабуюць весляваць супраць плыні, чаго не скажаш пра краіны-ізгоі. Кожная з іх, нібы няшчасныя сем'і ў рамане Льва Талстога «Ганна Карэніна», «нешчаслівая па-свойму» з-за таго, што спрабуе супрацьстаяць мэйнстрыму.

У 1975 годзе ў Беларусі колькасць гарадскога насельніцтва перавысіла колькасць сельскага — і тым самым завяршыўся фармальны пераход ад аграрнай эканомікі да індустрыяльнай. Наступны пераход ад эканомікі індустрыяльнай да постындустрыяльнай у рэспубліцы-партызанцы быў завершаны ў 2008 годзе. Крытэрам гэтага пераходу з'яўляецца перавышэнне колькасці занятых у сферы паслуг над тымі, хто заняты ў сферы вытворчасці і прамысловасці.

Чарговы пераход кіраўнічы і інтэлектуальны сегменты беларускай эліты прымудрыліся не заўважыць. Як першы, так і другі ў сваім разуменні макрапрацэсаў працягвае «ісці ад жыцця». І варта прызнаць, што за чвэрць стагоддзя яны здолелі аддаліцца ад гэтага жыцця на салідную адлегласць.

У якасці ілюстрацыі прывяду фрагмент з артыкула старшыні прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук, доктара эканамічных навук, прафесара, акадэміка Уладзіміра Гусакова «Беларускі шлях», апублікаванага ў «СБ. Беларусь сегодня» 17 кастрычніка 2019 года: «Менавіта буйнатаварны сектар у цяперашні час утрымлівае ў краіне эканоміку. Усё астатняе мае дапаможнае значэнне. Уключаючы не толькі малы і сярэдні бізнес у рэальным сектары, але і ў **сферы паслуг**» (вылучана. — Рэд.).

Галоўны акадэмік краіны, а па сумяшчальніцтве і галоўны эканаміст — чалавек заняты. Рэгулярна праглядаць афіцыйную статыстыку часу ў яго няма. Але прафесійнаму пенсіянеру, аўтару «Азбукі паліталогіі» нішто не перашкаджае звярнуцца да апошняга нумару «Статыстычнага штогодніка».

На 207-й старонцы размешчана табліца «Структура вытворчасці валавога ўнутранага прадукту», згодна з якой уклад у ВУП сферы вытворчасці склаў у 2018 годзе 37,9%, сферы паслуг — 47,7% і чыстых падаткаў на прадукты — 14,4%.

Безумоўна, уклад вытворчасці ў ВУП усё яшчэ істотны. Але чаму робяцца высновы, што беларуская вытворчасць сваёй долі ў ВУП абавязаная выключна буйнатаварнаму сектару? Перагортваем старонку штогодніка: будаўніцтва — 5,4%; сельская, лясная і рыбная гаспадарка — 6,4% плюс іншыя дробязі. На долю ж апрацоўчай прамысловасці ў 2018 годзе прыйшлося толькі 21,5%!

Не ўпэўнены, што старшыня прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук чытае «Новы Час», але іншай магчымасці данесці да акадэміка-эканаміста гэтыя азбукавыя веды ў мяне няма.




### Без карэкціроўкі не абысціся

Між іншым, артыкул акадэміка ў самай салідный газеце краіны пачынаецца са сказу: «Свет імкліва змяняецца». З гэтым не паспрачаешся, пытанне толькі ў тым, якія змены заўважаюць насельнікі верхніх паверхаў уладнай «вертыкалі» — гэтага сучаснага аналагу «вежы са слановай косці»?

У Беларусі сланы не водзяцца, таму не варта здзіўляцца дэфіцыту слановай косці ў краіне. Але ў Беларусі не робяцца і легкавыя электрамабілі, што не перашкаджае асобным шчасліўчыкам атрымліваць іх у якасці падарункаў — прычым непасрэдна з рук вытворцы.

Пагоня за светам, што імкліва змяняецца, патрабуе пастаяннай карэкціроўкі заканадаўства, у тым ліку і Асноўнага закона краіны — Канстытуцыі. 5 снежня, звяртаючыся да дэпутатаў парламента, адзіны палітык (АП) чарговым разам нагадаў пра гэта: «Парламентарыям сёмага склікання трэба будзе падключыцца да працы над праектамі, якія знаходзяцца ў плоскасці глабальных палітычных рашэнняў. У нас ужо назапасіўся шэраг пытанняў, якія трэба разам вырашаць на ўзроўні Асноўнага закона. Таму, відаць, нам з вамі, новым складам парламента, трэба будзе арганізавацца і далучыцца да працы па ўдасканаленні нашай Канстытуцыі».

У тым, што праца будзе праведзена якасна, сумнявацца не даводзіцца. У Беларусі сфарміраваны па-сапраўднаму працаздольны прадстаўнічы і заканадаўчы орган. Тут я зноў спасылаюся на аўтарытэт АП. У сваю чаргу, новаабраная палата абавязаная сваёй будучай працаздольнасці «выбарам, якія прайшлі ў адкрытай канкурэнтнай барацьбе», што было пацверджана ростам колькасці прэтэндэнтаў на адзін дэпутацкі мандат у параўнанні з мінулай выбарчай кампаніяй.

**Заклікамі адкручваць галовы тым, хто перашкаджае адладжанай працы ўчастковых выбарчых камісій, сістэму кіравання да сучаснага ўзроўню не падцягнуць, а вось апусціць яе ў Сярэднявечча — лёгка**

### Пра карысць «жалезнай заслоны»

Здагадак наконт канкрэтных зменаў Канстытуцыі хапае, аднак выказваюцца яны, як правіла, незалежнымі аналітыкамі і журналістамі. Кошт такіх здагадак, што зыходзяць ад тых, хто жыве на замежныя гранты, невялікі. На жаль, калегі грантасмокаў, чый хлеб з маслам аплачваюць беларускія падаткаплацельшчыкі праз бюджэт, сваімі думкамі па гэтым пытанні суайчыннікам не дакучаюць.

Нешматслоўны і сам ініцыятар чарговага перагляду Асноўнага закона. Тым не менш, як ні заканапачвай шчыліны, а вада шлях знойдзе. 5 снежня на сустрэчы з парламентарыямі АП сказаў літаральна наступнае: «Маё прынцыповае патрабаванне: мэтай меркаваных змяненняў павінна быць удасканаленне сістэмы кіравання».

На першы погляд, нічога нечаканага ў такім прыярытэце няма. Без развагаў пра неабходнасць «істотна падняць якасны ўзровень кіраўнічага корпуса краіны» за апошнія гады не абыходзілася ні адно пасланне. Беларускай эканоміцы патрэбныя энергічныя і прафесійныя кіраўнікі. З гэтым ніхто і не спрачаецца. Вось толькі дзе іх узяць?

Абмяжуюся адной цытатай, запазычанай з Паслання–2018: «Час жорсткай планава-размеркавальнай эканомікі незваротна сышоў. І калі няма ўказанняў, што рабіць і як рабіць, калі ўсё трэба шукаць самім, а цяпер яшчэ і ўзмоцнена змагацца за рынкі збыту — разумныя сучасныя кіраўнікі сталі на вагу золата».

У гэтым сутнасць праблемы. У несучаснай дзяржаве з яе несучаснымі, часта выключна імітацыйнымі інстытутамі, сучасных кіраўнікоў не выгадаваць. Асобныя выключэнні толькі пацвярджаюць правіла.

Але як справядліва заўважыў галоўны акадэмік-эканаміст краіны: «Свет імкліва змяняецца». Таму ўсе знешнія выклікі, з якімі сёння сутыкаецца Беларусь, — гэта сучасныя выклікі! Неабходнасць змагацца за рынкі збыту — толькі адзін з прыкладаў, спароджаных сучаснасцю.

Савецкі Саюз спрабаваў адгарадзіцца ад знешніх выклікаў з дапамогай «жалезнай заслоны» і «глушылак». У нейкай ступені яму гэта ўдавалася, што дазваляла вырабляць не толькі больш за ўсіх у свеце чыгуну і сталі на сярэднестатыстычную душу, але і электронна-вылічальныя машыны ўласнай распрацоўкі на ўласнай элементнай базе. Але як толькі «заслона» звалілася — ад высокатэхналагічных галін засталіся толькі рожкі ды ножкі.

### Прэцэдэнты маюцца

Несучасная эканоміка не здольная вырабляць сучасную канкурэнтаздольную прадукцыю. Але эканоміка — гэта толькі частка айсберга, створанага прадстаўнікамі віду Homo sapiens. Тым, хто хоча пераўзысці перадавыя краіны ў распрацоўцы і вытворчасці найноўшых электронных гаджэтаў, пачынаць варта з рэформы выбарчай сістэмы і суда. Гэта азбука.

Заклікамі адкручваць галовы і выварочваць рукі тым, хто перашкаджае адладжанай працы чальцоў участковых выбарчых камісій, сістэму кіравання да сучаснага ўзроўню не падцягнуць, а вось апусціць яе ў Сярэднявечча можна, што на практыцы і адбываецца.

Па традыцыі, якая склалася ў дзяржаве для народа, усе значныя рашэнні распрацоўваюцца ў таямніцы ад народа ў рэжыме спецаперацый. Карэкціроўка Асноўнага закона не стала выключэннем. Аднак складана сабе ўявіць, якім чынам з дапамогай перапісвання артыкулаў Канстытуцыі можна ўдасканаліць сістэму кіравання ў краіне.

Канстытуцыя ўзору 1996 года засяродзіла ўсю паўнату ўлады ў адных руках, але нават у часы Полацкага княства такая канцэнтрацыя ўлады да дабра не даводзіла. Таму не варта здзіўляцца таму, што эканамічны рост у краіне дыхае на ладан.

Нерэальна паверыць у атракцыён «Нечуванай шчодрасць» — у гатоўнасць АП падзяліцца часткай сваіх паўнамоцтваў, калі толькі ён не прыняў папярэдне несумяшчальную з жыццём дозу алкаголю. Застаецца выказаць здагадку, што гаворка ідзе пра механізм перадачы ўлады. Гады бяруць сваё, і саломку варта падаслаць загадзя, тым больш, што маецца прэцэдэнт — Казахстан.

# Не трэба думаць, што 7 снежня ўзровень небяспекі знізіўся



Уладзімір МАЦКЕВІЧ

**У нас агульная на ўсіх небяспека. Не ведаю, ці ёсць у яе мера — жоўты, чырвоны або аранжавы ўзровень, але яна адна для ўсіх.**

«Пул першага і адзінага» паведаміў, што 7–8 снежня ў Мінску прайшлі дэманстрацыі ў падтрымку гэтага першага і адзінага. Уладзімір Барадач — эмігрант і радыкальны праціўнік рэжыму — ацаніў акцыі гэтак жа. Расійскія інфармацыйныя рэсурсы распавялі, што акцыяй кіраваў асабіста Віктар Лукашэнка. Валерый Карбалевіч падкрэсліў, што Лукашэнка не стаў разганяць акцыі таму, што яны яму цяпер выгадныя.

Так. Незалежнасць патрэбна рэжыму і патрэбна мне, дый любому беларусу з грамадзянскай пазіцыяй. У адстойванні незалежнасці і суверэнітэту нашы мэты супадаюць. Нават Пазьняк за незалежнасць, як і Лукашэнка. Але трэба быць дэмагогам або салдатам інфармацыйнай вайны, каб сцвярджаць, што Пазьняк і Лукашэнка заадно. І што Севярынец дапамагае Лукашэнку. І што я цалкам падтрымліваю Севярынца. Але менавіта такі пасыл цяпер пануе ў абмеркаванні падзей 7–8 снежня.

Яшчэ ў пачатку кастрычніка мне давялося размаўляць з былым чыноўнікам высокага рангу і дэпутатам Палаты прадстаўнікоў. Я спытаў у яго, ці маю рацыю ў тым, што на дадзеным этапе нашы інтарэсы (кампаніі «Свежы вецер») і ўрада супадаюць, таму рэжым да нас лаяльны і не замінае? Ён адказаў, што менавіта так. І што ва ўрадзе і вышэй гэта разумеюць.

А што будзе тады, калі нашы інтарэсы і мэты разыдуцца ў розныя бакі? Ці пачнуць нас пераследаваць? Былы чыноўнік і дэпутат на хвіліну задумаўся — і амаль упэўнена адказаў: «Не, не думаю». Хвілінны задуменнасці мне хапіла, каб правільна інтэрпрэтаваць яго адказ: «Так, будуць пераследаваць!»

Ну, вядома ж. Нават без глыбокага аналізу ясна, што звычкі і прынцыпы рэжыму застаюцца нязменнымі, і ўсё, што не супадае з інтарэсамі і мэтамі рэжыму, падвяргаецца рэпрэсіям.

Так, у адстойванні незалежнасці інтарэсы ўсіх беларусаў супадаюць. Нават тых, хто трывае не можа Лукашэнку. Нават тых, хто трывае не можа мяне. Незалежнасць — наша агульная каштоўнасць, і рэжыму, і БНФ, і чырвона-зялёных, і бел-чырвона-белых. Так, мы ўсе па-рознаму разумеем незалежнасць. Але калі знешняя пагроза рэальна навісла над краінай і нацыяй, мы павінны забыць пра няна вісць адзін да аднаго.

Гэта як у час пажару ў лесе, тайзе ці джунглях у адным натоўпе ратуюцца і драпежнікі, і траваедныя. І тыя, хто есць, і тыя, каго яны ядуць. Яны бягуць побач ад агульнай небяспекі. Але калі небяспека праміне, тыгры пачнуць есці тых, з кім побач беглі ад пажару, і траваедныя будуць уцякаць ад аднаго выгляду драпежнікаў.

Пажар, агонь — безаблічная, бессуб'ектная стыхія. Яна пагражае ўсяму жывому. Але імперыя — гэта не пажар, яна не безасабовая. Пагроза аншлюсу, рэйдарскага захопу, павольнага задушвання — гэта не безасабовая з'ява прыроды, гэта тое, што робяць людзі.

Я магу цяпер абмяркоўваць з Макеем, са старшынёй КДБ, з палітычнымі апанентамі ў апазіцыі, што мы ўсе можам зрабіць, каб адвесці пагрозу, якая навісла над краінай.

Але я не магу нічога ўсур'ёз абмяркоўваць з Пятром Пятроўскім, з агентамі Крамля ў Беларусі — яны суб'екты і творцы пагрозы, якая працягвае вісець над краінай пасля 8 снежня. І не знікне пасля 20 снежня, незалежна ад таго, што падпішуць ці што не падпішуць. Яны ворагі, або (заезджаная метафара, але да месца) пятая калона Крамля, яны здраднікі і калабаранты.

Не ведаю, як тыя эксперты і чыноўнікі, якія па загадзе рыхтуюць гэтыя «дарожныя карты». Яны могуць быць і ворагамі, і добрасумленнымі служакамі, і проста наіўнымі выканаўцамі.

Але ворагі — гэта ворагі.

І ёсць яшчэ людзі, яны не ворагі, але памыляюцца. Ворагі здзяйсняюць злачынствы. А гэтыя — горш. Гэтыя людзі дапускаюць некалькі памылак: лічаць Лукашэнку гарантам незалежнасці; спадзяюцца на эканамічную прагматыку ў рэалізацыі ірацыянальных імперскіх памкненняў; спадзяюцца на міжнародную дапамогу, самі нічога не робячы; думаюць, што хтосьці, а не народ, з'яўляецца адзіным суверэнам, адзіным гарантам і адзіным абаронцам сваёй волі ды суверэнітэту. А яшчэ яны робяць з сябе аб'ектыўнага назіральніка. Такіх людзей нямала, у тым ліку з пішучых і вядомых.

А ёсць яшчэ тыя, паводзіны якіх я не магу кваліфікаваць ні як злачынства, ні як памылку, якая горш за злачынствы. Гэта эгаістычная прагнасць і сквапнасць. Яны лічаць, што на продажы суверэнітэту можна нажыцца. Звычайна такія сквапныя дзялкі не свецяцца, не паказваюцца на публіцы, яны робяць сваё ў цішыні і цемры.

Але ёсць дзялкі ў публічнай прасторы. Гэта палітыканы. Ім пляваць на пагрозу нацыі і краіне, яны пойдуць кандыдатамі ў прэзідэнты. Яны гатовыя грызці тых, хто ратуецца ад пагрозы, бачачы ў іх канкурэнтаў. Гэта тыя, хто высмейваў «алармізм» «Свежага ветру» і бачыў у ім канкурэнта ў барацьбе за ўплыў на шырокую публіку. Тыя, хто саромеўся далучыцца да інфармавання шырокіх мас пра пагрозу аншлюсу да самага апошняга моманту і прачнуўся толькі 6 і 7 снежня. Тыя, хто ўбачыў у пратэстах 7–8 снежня руку рэжыму і заяўляе пра гэта ўголас.

Усе гэтыя людзі ўспамінаюць, што большасць беларусаў не ведаюць ні пра які аншлюс, ні пра якую пагрозу. Ну, яшчэ б! А вы спрабавалі іх інфармаваць? Што ж вы маўчалі цэлы год, а цяпер папракаеце? Але зараз не да ўнутраных свarак. Адсунем пагрозу — тады і будзем разбірацца, хто больш герой і змагар, а хто так, міма праходзіў.

І вось тады інтарэсы разыдуцца. І інтарэсы «Свежага ветру» з інтарэсамі рэжыму. І з Паўлам Севярынцам. Ды і ў самім «Свежым ветры» могуць узнікнуць розныя плыні, і ён падзьме ў розных напрамках.

А пакуль у нас агульная на ўсіх небяспека. Не трэба думаць, што 7 снежня ўзровень небяспекі знізіўся. Ён, магчыма, нават вырас. Мы ж па-ранейшаму НІЧОГА не ведаем. Не ведаем, што сапсавала настрой Лукашэнку ў Сочы. Не думаю, што гэта былі кошты газу і нафты. Падазраю, што гэта нешта большае. Магчыма, асабістая пагроза, магчыма, кампрамат. Ці проста імперская ўпартасць і незгаворлівасць Пуціна.

Агульная небяспека патрабуе агульных дзеянняў. Нельга выратаваць тапельца, калі ён сам гэтага не хоча. Еўрапейцы так і заявілі вуснамі сваіх дыпламатаў: калі вы, беларусы, нічога не робіце для абароны свайго суверэнітэту, то нам ваш суверэнітэт і дарма не патрэбен, і без вас клопатаў хапае.

Гэта наша справа, а не Лукашэнкі, Сямашкі і Румаса. Калі будзе параза — гэта будзе наша параза, а не Лукашэнкі ці Еўропы. І мая асабістая параза. Калі будзе перамога — гэта будзе перамога нацыі, не Лукашэнкі, не Севярынца, не «Свежага ветру», не мая. Наша!

І нам патрэбна адна перамога! Перамога, а не адтэрміноўка. Адна на ўсіх! Пытанне кошту я цяпер абмяркоўваць не буду, кожны сам вырашае, якую цану ён гатовы за гэта заплаціць. Хтосьці заяўляе, што гатовы і жыццё за незалежнасць аддаць. Веру! Але лепш, вядома ж, без такіх крайнасцяў.

За нашу і вашу свабоду! Жыве Беларусь!

# Сяргей Антончык: «Над Беларуссю навісла смяротная небяспека»

Зінаіда ЦІМОШАК

**Актывіст і адзін са стваральнікаў рабочага руху, актыўны ўдзельнік страйку працоўных у красавіку 1991 года, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у 1990–1995 гадах, сябра апазіцыйнай фракцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, аўтар знакамітага даклада пра карупцыю ў атачэнні Лукашэнкі дзеліцца сваімі думкамі наконт праблемаў сучаснай Беларусі.**

***— Чаму праз амаль 30 гадоў набыцця сваёй краіны мы зноў абмяркоўваем пагрозы для яе незалежнасці?***

— Я лічу, што гэта не проста пагроза — над Беларуссю навісла сапраўдная смяротная небяспека. Расіі ўжо недастаткова павольнага працэсу эканамічнай інкарпарацыі. Спатрэбілася поўнае паглынанне, і яго ме-



Сяргей Антончык

ханізмы зараз абмяркоўваюцца і ствараюцца ў Маскве.

***— Ці магчыма прамая ваенная агрэсія?***

— Пасля сваёй паразы ва Украіне расійскія захопнікі зразумелі, што прамая ваенная агрэсія супраць суверэннай краіны нясе шмат негатыўных наступстваў для самой імперыі. Па-першае, сумесная барацьба людзей супраць агрэсара моцна аб'ядноўвае нацыю, што і адбылося ва Украіне. Па-другое, нахабная і беспрэцэдэнтная па сваіх маштабах інфармацыйная вайна супраць украінцаў парадаксальным чынам зламала асноўную скрэпу Расійскай імперыі — стары савецкі міф аб вечным братэрскім сяброўстве славянскіх народаў. Тыя грамадзяне, якія хісталіся ў сваіх поглядах на Расію, раптам зразумелі, што такое Расія на самай справе. Дагэтуль абстрактны выраз «Расія — гэта вайна» стаў нечаканай суровай рэчаіснасцю. Вайна ўвайшла ў кожны дом.

Па-трэцяе, сутыкнуўшыся з праявамі новай ваеннай тактыкі — гібрыднай вайной, што суправаджалася інфармацыйнай вайной, — урэшце прачнуўся і Захад. Пачаўся працэс глабальнага перагляду адносін з Расіяй, былі ўведзены эканамічныя санкцыі, якія маюць сур'ёзныя наступствы для эканомікі агрэсара.

Крамлёўскія стратэгі ўлічваюць усе гэтыя акалічнасці — і яны пралічылі, што прамая агрэсія супраць Беларусі пакуль ім не патрэбная. Беларускі рэжым цалкам прарасійскі, Лукашэнка ў поўным аб'ёме выконвае яўныя і таемныя дамовы з Расіяй, а рэпрэсіўны апарат эфектыўна кантралюе ўсё беларускае грамадства. Да таго ж у Беларусі няма арганізаванай сілы, якая магла б выгнаць Лукашэнку, як гэта зрабілі ўкраінцы са сваім Януковічам, і якая магла б перавтарыць у прах укладзеныя ў беларускі рэжым інвестыцыі. Таму будуць дацiскаць Беларусь праз эканамічную залежнасць і «Саюзную дзяржаву».

Пуцін, магчыма, пакуль бы так не чапляў Лукашэнку, але рэзка змянілася геапалітычная сітуацыя. Лічу, што расійскім ваенным драпежнікам для пачатку шырокамаштабнай вайны з Украінай патрэбна мець доступ да яе паўднёвай мяжы. Мець сумесную мяжу з Еўрасаюзам — яшчэ адзін сур'ёзны аргумент у вялікай геапалітычнай гульні Крамля. Пуцінскі рэжым не можа прапанаваць хвораму на шавінізм расійскаму народу хлеб і дабрабыт, але можа прапанаваць пераможнай вайны. Таму крамлёўскія ўлады спяшаюцца, а незалежная Беларусь ім замінае. Трэба яе праглынуць як мага хутчэй.

Спецаперацыя разгортваецца на нашых вачах.

Прыкра казаць, але небяспека для нашай незалежнасці з'явілася не сёння і не ўчора. Яна паўстала ўжо на другі дзень пасля прэзідэнцкіх выбараў 1994 года. Яшчэ пасля першага тура выбараў у парламенцкай «Народнай газеце» быў надрукаваны мой артыкул пра намеры Лукашэнкі «на каленях упаўзці ў Расію». Гэты намер паслядоўна выконваўся ў перыяд з 1994 па 2004 гады: былі нанесены смяротныя ўдары па асноўных канструкцыях беларускай дзяржавы: знішчаныя беларуская мова і дзяржаўныя сімвалы, Канстытуцыя, разбураныя дэмакратычныя інстытуты. Беларусь пакрочыла з дарогі самастойнага развіцця ў багну каланіяльнай залежнасці ад Расіі.

***— І хто можа цяпер усё змяніць?***

— Мы з вамі. Беларускія чыноўнікі, вайскоўцы, рабочыя, настаўнікі. Усёй грамадой мы зможам спыніць гэты аншлюс. Краіна Беларусь належыць усім беларусам, якія жывуць цяпер, на ёй жылі і за яе змагаліся нашы продкі, на ёй павінны жыць нашчадкі беларусаў. Галоўнае — абараніць яе сёння. Лічу, што беларусы будуць бараніць Радзіму. Нездарма постаць Кастуся Каліноўскага нагадала пра сябе ў такі складаны для краіны час.

Вельмі просты і няхітры пароль для гэтай барацьбы, для аб'яднання, перайшоў да нас праз стагоддзі: «Каго любіш? — Беларусь! — Дык узаемна!»

# «Калі дэлегацыя з’ехала, мне

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Жыхарка Турава пабудавала ў родным горадзе аздараўленчы цэнтр з водалячэбніцай і за гэта апынулася без працы.**


Ірына Сяргейчык

Так бывае, што на зробленае дабро адказваюць злом, і не кожны ў стане перажыць гэтую несправядлівасць. Некалі галоўны ўрач тураўскай бальніцы, а цяпер — гаспадыня аграсядзібы Ірына Сяргейчык не толькі здолела гэта зрабіць, але і змагла ўбачыць свет па-новаму.

## «Нам не трэба было тлумачыць, што такое любоў»

Мы гутарым з Ірынай у доме яе дзядоў, які, праўда, у вайну згарэў і пасля быў адбудаваны нанаў. Цяпер тут аграсядзіба «Коло Струменя» — гэта па-тураўску. Струмень — прыток Прыпяці, блізу яго і месціцца сядзіба. Тут няма банкетных залаў, більярдных і многіх іншых разлічаных на турыстычны патok складнікаў. Затое ёсць цёплая печка, светлая кухня, утульныя пакойчыкі з ложкамі з дзяцінства, пашытымі рукамі гаспадыні фіранкамі і саматканымі посцілкамі, вышытымі ўручную рушнікамі ды сурвэткамі, а таксама з вялізным дзедавым куфарам. Дом гэты мае сваю душу і, як прызнаецца Ірына, не ўсіх ахвотных яна тут прымае.

— Мама мая з Дварца, цяпер гэта частка Турава, а тата — з самога Турава. Яны сустрэліся ў школе пасля вайны, куды ён пайшоў з гэтага дому добраахвотнікам. Дзядуля, яго бацька, працаваў брыгадзірам абстановачнага ўчастка ад Давыд-Гарадка да Мазыра — адказваў за парадак на рацэ. Дома яго не было, таму тата з хлопцамі селі ў лодку, прычапіліся да баржы і паплылі ў Мазыр, бо ў Тураве не было прызыву. Сустрэлі дзядулю, які быў таксама ў лодцы. Каб паведаміць яму аб сыходзе на фронт, тата парэзаў палец і крывёй напісаў на кавалку кардону: «Тато, мы з хлопцамі на фронт. Вярнуся». І калі баржа параўнялася з дзедавым чоўнам, прывязалі да кардону каменьчык і перакінулі яго дзеду ў лодку. Яны нават не развіталіся.

Тата прайшоў усе гарачыя кропкі вайны. Скончыў яе на Халхін-Голе з чатырма ордэнамі і шматлікімі медалямі. Яму далі грошы, якія ён прывёз бацьку, каб той мог пабудаваць новы дом.

Пасля вайны збіраліся ісці ў сваты да дачкі дзедавага сябра. А тата прыйшоў па запрашэнні дырэктара ў школу, дзе ўбачыў маму. І сказаў бацьку, што ў сваты ён не пойдзе і без мамы нікуды не паедзе — а яму заставалася тры дні адпачынку, пасля якога трэба было ехаць служыць у Забайкалле.

Мама хацела вучыцца на настаўніцу, і тата сказаў, што яны будуць вучыцца разам. Назаўтра згулялі вяселле! А потым паехалі ў Забайкалле. Яны пражылі душа ў душу 27 гадоў. Таты не стала вельмі рана — у 52. Нас было пяць дачок у бацькоў, і тата заўжды казаў: «У мяне шэсць дзяўчатак». Нам не трэба было тлумачыць, што такое любоў — мы ў гэтым выраслі. І я шчаслівы чалавек, таму што змагла гэта бачыць і адчуваць.

## Як Васіль Быкаў паспрыяў будаўніцтву бальніцы ў Тураве

Скончыўшы ў Тураве школу з залатым медалём, Ірына паехала паступаць у Піцер у медінстытут, каб вучыцца на педыятра. Пасля заканчэння вучобы дзевяць гадоў працавала ў Расіі.

— У мяне нарадзіўся першы сын у Піцеры, другі — у горадзе Дзяцькава каля Бранска. І вось, я выходжу з дэкрэту і чытаю загад аб прызначэнні мяне на пасаду загадчыцы дзіцячай кансультацыі. Я — у слёзы: які з мяне адміністратар? У мяне маленькія дзеці, чужы край... Але нікога гэта не цікавіла. Ну і пайшла «з шашкай»: з кансультацыі стварыла паліклініку, потым дабілася новага памяшкання. Была самым маладым намеснікам галоўнага ўрача.

Потым хірург, траўматолаг Валодзя Волкаў прыехаў з Сібіры на радзіму ў Тураў, каб сваім людзям пабудаваць бальніцу. І сказаў мне: што ты там у Расіі робіш, калі патрэбная ў Тураве? Ён званіў мне паўгода праз дзень, і ў 1989 годзе я здалася, прыехала ў Тураў і стала яго памочніцай. А ён ужо быў ворагам для ўсяго кіраўніцтва, таму што патрабаваў і будаваў для людзей.

Тады ад нашай акругі абіраўся дэпутатам Васіль Быкаў, Валодзя з ім пазнаёміўся, і яны разам паехалі ў Маскву з праектам бальніцы дамагацца дазволу на будаўніцтва. І яны яго атрымалі.

Валодзя запісваў гісторыю будаўніцтва і перад смерцю перадаў яе мне. Яна вартая пяра! Я паехала да Быкава, яго жонка напякла піражкоў. Кніг у яго ў кабінеце было, апроч паліц, — ад падлогі да столі. Я размаўляла з ім як з бацькам. І ён сказаў мне: «Ірына, я б гэта надрукаваў. Але не надрукуюць!»

Валодзя перадаў мне свае сувязі і спытаў: «Ты даробіш тое, што я не дарабіў?» І я дала слова.

## «Як так: пасол будзе па-беларуску, а я — па-руску?»

Ірыну кіраваць бальніцай не дапусцілі, бо разумелі, што з ёй будзе «нязручна». Але яна рабіла, што магла, і ў выніку прыдумала пабудаваць у Тураве водалячэбніцу, на якую знайшла спонсарскія сродкі. І за гэта апынулася на вуліцы.

— Мікалай Піліпавіч Румас, які тады быў намміністра фінансаў, усё ж запрасіў мяне ўзначаліць бальніцу, і я стала галоўным урачом. Да таго часу я ўжо была тройчы звольненая і аднаўленая. Я сказала, што стаўленне да мяне вядомае, і іншай я не стану, але Румас сказаў, што дапаможа. Аднак падчас працы яго раптоўна не стала, і зноў пачаліся нападкі.

Ірына напісала праект па стварэнні ў Тураве водалячэбніцы і цэнтра аздараўлення пры бальніцы, які перамог сярод 15 іншых з усёй краіны і выйграў гуманітарны грант пасольства ЗША. У 2001 годзе пачалася праца, але штораз Ірыне ставілі палкі ў колы.

— Мне прапанавалі адкрыць валютны рахунак на гуманітарную дапамогу ў 200 тысяч долараў — атрымаць гэтыя грошы і самой аплачваць імі будаўніцтва цэнтра. Але я супрацьвілася. Звярнулася ў дэпартамент, і мне прапанавалі пабудаваць цэнтр і ўжо яго аформіць як дапамогу. А амерыканскае пасольства аплачвала ход будаўніцтва падрадчыку.

Зразумеўшы, што так проста грошы не возьмеш, мне прапанавалі набыць беларускія ванны для водалячэбніцы, а не чэшскія, і розніцу аддаць. Я адмовілася. Тады склікалі атэстацыйную камісію, атэставалі мяне як неадпаведную займанай пасадзе і звольнілі. Але пасля гэтага амерыканцы не далі грошай. Я падала іск, і суд аднавіў мяне на працы.

Тут жа пайшлі грошы, прымаць праект у тураўскую бальніцу прыехаў пасол ЗША Джордж Крол. У мяне была траўма нагі, гіпс. Але адзін раз у жыцці прыязджае амерыканскі пасол — і я буду ў тапках? Папрасіла накласці мне тонкую павязку, апранула туфлі і пайшла. Калегі, якія ведалі, якая ў мяне праблема, бляднелі.

Я яшчэ перажывала: як буду з паслом размаўляць? А мне адказалі: «Дык ён будзе гаварыць па-беларуску!» Як так — ён будзе казаць па-беларуску, а я — па-руску? Уся ноч пайшла на тое, каб перакласці мой падрыхтаваны выступ на беларускую мову.

## Упасці, каб узняцца

Пасля прынялі, цэнтр з чэшскімі ваннамі і некалькімі відамі масажу адчынілі — праўда, па тэлебачанні выйшаў сюжэт, у якім распавялі, што апазіцыя ў Тураве стварыла базу для амерыканцаў. У той час якраз разгараўся канфлікт паміж Беларуссю і ЗША, неўзабаве пасля якога з нашай краіны былі высланыя амерыканскія дыпламаты.

Калі дэлегацыя з’ехала з Турава, Ірыне сказалі, што яна ў бальніцы больш не працуе. Заснаваны ёй цэнтр таксама так і не пачаў працу — ужо дзесяць гадоў ён стаіць з новым абсталяваннем зачынены.

— Мая кар’ера скончылася — і пачалася дэпрэсія. Не ведаю, як бы я перажыла гэта, каб не сябры. У гэты год я пазнаёмілася з Леанідам Каліценем, які каардынуе сетку сацыяльных прадпрыемстваў CINGO. І мы


Фіранкі, як і многае іншае ў хаце, пашытыя рукамі Ірыны


Гаспадыня паказвае сядзібу

# сказалі, што я больш не працую»

сталі думаць, чым займацца далей. У той час была магчымасць узяць ільготны крэдыт у «Белаграпрамбанку» для развіцця агратурызму. Хаця для мяне цэнавая палітыка — гіблая справа. Але паўстала пытанне рамонту дзедавага дому. Таму я ўзяла крэдыт.

Сама гаспадыня прызнаецца, што турызму як такога тут мала, карпаратываў яна не прымае — гэта, хутчэй, дамок для сяброў. А яшчэ ў яе тут месціцца кабінет: у свой час Ірына атрымала адукацыю ў галіне нетрадыцыйнай медыцыны. Лячэннем па-за пратаколам яна не займаецца, але можа нешта параіць, падабраць дыету, лекавыя зёлкі. На маё здзіўленне, хіба дактары не скептычна ставяцца да нетрадыцыйнага лячэння, Ірына адказвае: тыя, хто знаёмы з ім глыбока, разумеюць, што гэта сур'ёзна. Методыка Су Джок тэрапіі, якую засвоіла Ірына, ліцэнзаваная Мінздароўя, і яна нават у свой час унесла яе ў дзейнасць тураўскай бальніцы.

— Апроч іншых, я маю спецыяльнасць па дыягностыцы, 15 гадоў працавала за апаратам УГД. І вось у чалавека ў некалькіх месцах знаходзяцца камні. Як лячыць? Адны лекі, другія, трэція, пятыя — а чалавек адначасова можа ўспрымаць два — максімум тры прэпараты.

У гэты час мне трапілася аб'ява, я пачынаю вучыцца — і знаходжу адказы на свае пытанні. Бо мы, акрамя фізічнай, маем і энергетычную абалонку. І прычыны фізічных праяваў хваробаў — у ёй. І калі ўдаецца разгледзець прычыну, то і на фізічным узроўні хвароба распадаецца.

У нас першы прынцып — без лекаў. Я не адмаўляюся ад традыцыйных лекаў, але прымаю іх у крайняй неабходнасці. Канешне, калі працэс запушчаны, без іх не абысціся. Каб быў плён ад нетрадыцыйнага лячэння, патрэбны час. Я магу зняць боль, але вызваліць чалавека ад праблемы не магу — ён павінен сам гэтага захацець і ўключыцца ў працэс.

Цяпер Ірына ва ўсім, што адбываецца ў яе жыцці, бачыць сусветную мудрасць.

— Я заўжды кажу пра тое, што нават калі здараецца нешта дрэннае, яно не бывае без добрага. Я доўга не знаходзіла сабе месца, калі мяне выгналі з бальніцы. Было б зразумела, калі б я здзейсніла нейкае злачынства, нешта скрала. Але за дабро — мне было незразумела, і ў гэтым быў вялікі ўнутраны канфлікт. А з іншага боку, я змагла яшчэ нешта зрабіць. Значыць, я вырасла. Я ўбачыла свет па-іншаму. А калі б я там засталася і пайшла б насуперак усяму, я б ужо магла быць у іншым свеце. Ужо тады я звалілася з крызам, потым была яшчэ адна страшная сітуацыя. А так — я жыву, у мяне дзеці, унукі, я змагла даглядаць за мамай — гэта ж шчасце!

Мая суразмоўца адным са сваіх жыццёвых дэвізаў лічыць верш Рыгора Барадуліна (з якім мела шчасце быць знаёмай):

*Хай будзе ўсё як будзе —*
*Рака цячэ ў вякі.*
*Хай вейкі асакі*
*Дрыжаць у перапудзе.*

*Хай людзіцца бязлюддзе,*
*І ў раніцы з рукі*
*Расу п'юць жаўрукі.*
*Хай будзе ўсё як будзе...*




Ірына ўсцешаная, што была знаёмая з Рыгорам Барадуліным і мае яго зборнік з аўтографам




Адзін з улюбёных вершаў Ірыны ў Рыгора Барадуліна

## Тураўскія зоркі і бляск у вачах

Пра родны Тураў Ірына заўжды кажа з вялікім захапленнем. Яна ўвесь час узгадвае, што тут заўжды жылі мяккія людзі, ніколі не было п'янства і лаянак. Раней па выхадных у парку граў аркестр. А яшчэ ў даўнейшыя часы, распавядае гаспадыня, людзі з навакольных вёсак ішлі ў Тураў басанож, і перад уваходам у яго мылі ногі ў рацэ ды абувалі чаравікі — на знак павагі да гораду.

— Адметнасць Тураўскай зямлі ў тым, што яна заўжды нараджала вельмі моцных людзей. Мы ведаем святых Кірылу, Лаўрэнція, Марціна, Барыса і Глеба. Гэта намоленае месца — спачатку язычніцкае, потым хрысціянскае.

Сапраўды, у Тураве адчуваеш нейкую невытлумачальную энергію гэтай зямлі. Ці тое ад усведамлення яе старажытнасці, ці тое ад разумення таго, колькі яшчэ таямніц яна ў сабе захоўвае. І, перакананая, у патрэбны час, калі мы зможам належным чынам абыходзіцца з гэтай схаванай спадчынай, яна яе выдасць.

**Пасля прынялі, цэнтр з чэшскімі ваннамі і некалькімі відамі масажу адчынілі — праўда, па тэлебачанні выйшаў сюжэт, у якім распавялі, што апазіцыя ў Тураве стварыла базу для амерыканцаў. Калі дэлегацыя з'ехала з Турава, Ірыне сказалі, што яна ў бальніцы больш не працуе. Заснаваны ёй цэнтр таксама так і не пачаў працу — ужо дзесяць гадоў ён стаіць з новым абсталяваннем зачынены**

Тураў — гэта не толькі старажытны горад, сталіца аднаго з першых княстваў на беларускай зямлі. Гэта эпіцэнтр, у якім сходзяцца ў адно культуры, звычаі, гісторыі, прырода. Менавіта ў гэтым месцы выяўлены адзін з цудаў Беларусі — каменныя крыжы, якія, лічаць вернікі, растуць з зямлі і маюць цудадзейную моц. Нездарма тут, ля старажытнай Усіхсвяцкай драўлянай царквы, знайшоў спачын вялікі гетман Канстанцін Астрожскі. Не дзіўна, што тут знаходзіцца пярліна беларускай прыроды — абмыты чароўнай Прыпяццю Тураўскі луг, дзе гняздуюцца сотні відаў птушак, у тым ліку рэдкіх. Асабліва славіцца гэты прыродны анклаў мноствам відаў кулікоў — у гонар гэтых птушак у Тураве сёлета ладзілі фестываль.

А яшчэ Тураў — гэта людзі. Незвычайныя, глыбокія, з асаблівым поглядам на гэты свет і тонкім яго адчуваннем. Мая тураўская суразмоўца перакананая: у кожным чалавеку закладзены нейкі талент, але для таго, каб ён праявіўся, патрэбная глеба.

— Калі да мяне прыязджае спадар Уладзімір Арлоў, ён кажа, што ў Тураве такія зоркі, якіх няма больш нідзе. І ён не першы гэта заўважыў. Я не магла паверыць, калі мне сказалі, што мой праект выйграў. А аташэ пасольства Злучаных Штатаў на маё здзіўленне адказаў: «Ірына, у цябе ж зоркі такія ў Тураве!»

Пасля гутаркі з Ірынай пранікаешся яе ўменнем пасаблівому бачыць і адчуваць гэты свет. Яна перакананая, што з'яўляецца шчаслівым чалавекам. Але шчасце, кажа Ірына, гэта вялікая праца. Бо нягледзячы на ўсе беды трэба ўмець дзякаваць за кожны светлы момант у жыцці.

— Шчасце — не быць раўнадушным. І калі блішчаць вочы — таксама шчасце, — кажа яна.

І вочы ў яе блішчаць.

**Фота аўтаркі**



Печка, лежбішча ля яе за пашытай уласнаручна фіранкай — утульна, як у бабулінай хаце

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ




Фота www.bbc.com

### ЯПОНІЯ. Права на акуляры

Цікавыя асаблівасці набыў феміністкі рух #MeToo ў Японіі. Тут жанчыны змагаюцца за права насіць акуляры на працы. Усё таму, што традыцыйна японскім жанчынам, якія працуюць у офісах, забаронена знаходзіцца там у акулярах. Прычыны такой забароны мужчыны-дырэктары тлумачаць тым, што жанчына ў акулярах, маўляў, не вельмі прыгожа выглядае. Гэта, у сваю чаргу, быццам, пагражае прывабнасці ўсёй кампаніі. Тым супрацоўніцам, якія вельмі кепска бачаць, прапануецца набываць кантактныя лінзы. Нязгодных на лінзы папросту звальняюць. Цікава, што забабоны накont акуляраў аказаліся такімі моцнымі, што захоўваюцца больш за стагоддзе. За гэты час японкі дамагліся шмат чаго — у тым ліку права насіць да працы абутак на абцасах і карыстацца касметыкай, але акуляры дасюль застаюцца табу. Цяпер мясцовыя феміністкі абвясцілі збор подпісаў за закон, які павінен змяніць правілы японскай карпаратыўнай культуры.

**Паводле французскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Лацінка адмяняецца?

Міністэрства адукацыі Казахстана не зможа пачаць навучанне на лацініцы ў школах у наступным годзе, калі павінен быў пачацца асноўны этап пераходу казахскага правапісу з кірыліцы на лацінку. Па плане першапраходцамі маглі б стаць вучні з 1-га па 5-ы класы, якія павінны былі вучыцца па новых падручніках. Аднак цяпер у праектах адбыліся збоі. Праблема, калі верыць афіцыёзу, у тым, што да гэтага не ўзгоднены варыянт алфавіту. Кіраўніцтва краіны абяцае падрыхтаваць новы варыянт, аднак канкрэтныя тэрміны не называюцца. Гэта дазваляе ўсё больш сумнявацца ў тым, што пераход на лацінку сапраўды адбудзецца. Не выключана, што ідэя новага алфавіту была адным з многіх мегапраектаў Нурсултана Назарбаева, якія так і не былі рэалізаваныя з-за дэфіцыту сродкаў. Паколькі ўсе прагназуюць сусветную рэцэсію і, як вынік, праблемы ў эканоміцы Казахстана, ідэю лацінкі можа напаткаць лёс іншых прамжэктаў Назарбаева.

**Паводле казахскай прэсы**

### ЗША. Трамп быў пасланы Богам?

Міністр эканомікі ў адміністрацыі Трампа ў адным з нядаўніх інтэрв'ю падзяліўся добрай навіной: цяперашні прэзідэнт ЗША пасланы на зямлю з мэтай рэалізацыі Божай волі. Навіна можа падацца экстравагантнай толькі на першы погляд. Аказваецца, многія пратэстанцкія цэрквы ў Злучаных Штатах даўно прыйшлі да такога ж меркавання, і нават заклікаюць іншых амерыканцаў прызнаць факт незямной місіі кіраўніка краіны. Пра тое, што Трамп — абраны, па іх словах, сведчыць, што ён паводзіць сябе досыць дзіўна. Аднак у Біблії хапае прыкладаў, калі Бог рабіў стаўку на недасканалых людзей. Напрыклад, біблейскі цар Давід быў неабіякавы да жанчынаў. Прэса не выключае, што Трамп сапраўды можа пачаць піярыць сябе як пасланца Усявышняга. На думку СМІ, гэта стане прыкладам для Пуціна і Сі Цзіньпіна, якія таксама з часам заявяць пра сваю божую прыроду.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ІЗРАІЛЬ. Невядомыя мсціўцы

Ізраільская прэса піша пра цікавы эпізод, які адбыўся пасля заканчэння Другой сусветнай вайны. Тады прыкладна 50 маладых яўрэяў з Еўропы, якія выжылі ў гітлераўскіх канцлагерах, стварылі групу «Мсціўцы». Яны пакляліся адпомсціць немцам за Халакост, падчас якога, як вядома, былі забітыя больш за 6 мільёнаў яўрэяў. Менавіта тую ж колькасць немцаў вырашылі забіць «Мсціўцы». Першай ахвярай павінны былі стаць жыхары Нюрнбергу, у сістэму водазабеспячэння якога планавалася дадаць смяротную атруту. Аднак груз з рэчывам перахапіла брытанская мытня. Тады вырашылі перайсці да плану «Б», у рамках якога атруціці ежу немецкіх палонных у адным з лагераў. Прыкладна ў 2000 вязняў выявілі хваробы страўніка, аднак ніхто не памёр. На гэтым запал у «Мсціўцаў» скончыўся, і яны вырашылі вярнуцца да мірнага жыцця. Цікава, што пра існаванне групоўкі стала вядома толькі цяпер. Усе яе сябры, большасць з якіх жывыя дасюль, хавалі тайну пра прыналежнасць да арганізацыі.

**Паводле амерыканскай прэсы**

# Як Буг стаў мяжой

Алег НОВІКАЎ

**Сто гадоў таму на карце Усходняй Еўропы з'явілася лінія, якая з часам атрымала назву «Лінія Керзана», а трошкі пазней стала контурам цяперашняй заходняй мяжы Беларусі.**




Прыкладна напачатку 1917 года ўсім стала зразумела, што аднаўленне польскай незалежнасці пасля заканчэння Вялікай вайны (так на Захадзе называюць Першую сусветную) непазбежнае. Канстатацыя факту прымусіла дыпламатаў дзяржаваў Антанты пачаць маляваць будучыя польскія межы. Узгаднілі тыя картаграфічныя планы ў час Парыжскай мірнай канферэнцыі ў 1919 годзе.

У выніку 8 снежня 1919 года незалежная Польшча атрымала свае межы. Заходнюю мяжу (з Германіяй) узгаднілі дакладна. А вось з усходняй — з улікам грамадзянскай вайны ў былой Расійскай імперыі — паўсталі відавочныя праблемы. Таму вырашылі абмежавацца праектам часовай умоўнай мяжы Польшчы, на ўсход ад якой яна нейкі час не мела права ствараць свае адміністрацыі. Праходзіла тая лінія праз Гродна — Ялаўку — Няміраў — Брэст-Літоўскі і далей на поўдзень.

Дасюль не сціхаюць спрэчкі, чаму польска-беларускі кардон павінен выглядаць менавіта так. На польскіх гістарычных сайтах пішуць, што дыпламаты абапіраліся ў асноўным на польска-расійскую мяжу перад Трэцім падзелам Рэчы Паспалітай. Ёсць версія, што прымаўся пад увагу этнаграфічны складнік.

Нарэшце, існуе версія, паводле якой тую лінію малявалі, нахабна грэбуючы гісторыяй і этнаграфіяй. Справа ў тым, што малявалі яе прадстаўнікі імперскіх дзяржаваў. Таму асноўным прынцыпам размежавання, маўляў, аказаўся каланіяльны вопыт, калі ролю мяжы, як правіла, адыгрывалі рэкі. У нашым рэгіёне такая «ганаровая» функцыя дасталася Бугу.

У прынцыпе, з улікам хаосу, які панаваў тады ў нашым рэгіёне, патрабаванні парыжскай Дэкларацыі адначасова ігнаравалі ўсе ўдзельнікі шматлікіх лакальных канфліктаў — Польшча, Украінская Народная Рэспубліка (УНР), бальшавікі, лідары белага руху, аўтары праекту БНР і гэтак далей. Польшча настойвала на пашырэнні сваёй тэрыторыі далей на ўсход, УНР хацела аб'яднаць усе ўкраінскія этнічныя землі ў адзіную дзяржаву, правадыры «белых» бачылі будучыню краю толькі ў межах Расійскай імперыі, заходнім беларускім рубяжом аўтараў БНР лічыўся Беласток.

У гэтым плане наступ Пілсудскага ўвесну 1920-га далёка на ўсход ад лініі, намаляванай у Парыжы, спачатку асаблівай крытыкі ў Антанты не выклікаў. Тым больш, пасля краху Дзянікіна Захад быў зацікаўлены ў новых антыбальшавіцкіх праектах. Аднак паход скончыўся катастрофай пад Кіевам, і хутка фронт імкліва пакаціўся на Захад. Зараз мы чытаем пра гэтыя падзеі вельмі спакойна, ведаючы развязку: у жніўні пад Варшавай «чырвоныя» былі спыненыя. Аднак улетку 1920-га ўсё было значна больш драматычна: заходнія сталіцы ахапіла сапраўдная паніка.

Тут і з'явіўся на сцэне тагачасны дырэктар брытанскага МЗС лорд Джон Керзан, які 11 ліпеня прапанаваў Леніну мір у абмен на вывад войскаў на дэмаркацыйную лінію з той самай «Парыжскай Дэкларацыі» ад 8 снежня 1919-га. Ва Усходняй Галіцыі дэмаркацыйнай лініяй павінна была стаць лінія фронту на момант спынення агню.

Прычым, з Варшавай Керзан асабліва не кансультаваўся. Яе, як называецца зараз, папросту «нахілілі». Залежны ад заходняй вайсковай дапамогі Пілсудскі 16 ліпеня быў вымушаны дэ-факта прызнаць «Лінію Керзана» ўсходнім польскім этнічным рубяжом. Гэта можна было трактаваць (так і будзе пазней) як адмову Польшчы ад тэрыторый на ўсход ад Буга.

**Польшча магла страціць на карысць БССР і УССР значна больш. Адмова Сталіна ад Падляшскага і Беластоцкага рэгіёнаў адбылася ў абмен на далучэнне да СССР часткі Усходняй Прусіі з Кёнігсбергам**

Зрэшты, Ленін адкінуў усе прапановы дэмаркацыйных ліній, якія былі ўсталяваныя дзяржавамі Антанты. Лічылася, што Чырвоная Армія здольная прарвацца праз Польшчу ў Германію і даць імпульс новай рэвалюцыйнай хвалі. Праз згаданую вышэй паразу пад Варшавай бальшавікам давялося абмежавацца Рыжскім мірам. Пра «Лінію Керзана» практычна ўсе забыліся.

Імя брытанскага лорда і яго картаграфічныя эксперыменты нечакана ўсплылі падчас Другой сусветнай вайны. Пасля канфлікту з польскім эміграцыйным урадам у 1943 годзе Сталін загадаў забыцца на дамову з палякамі, паводле якой у ліпені 1941-га СССР адмаўляўся ад тэрытарыяльных наступстваў пакту Молатава—Рыбентропа. Цяпер СССР пачаў спасылацца на «Лінію Керзана» як на алібі для далучэння заходніх Украіны і Беларусі ў 1939 годзе. З улікам фактару Чырвонай Арміі на фронце Захад асабліва не аспрэчваў сталінскія канструкты. Увесну 1945 года ўдзельнікі Крымскай канферэнцыі канчаткова пагадзіліся з прапанованай савецкага ўраду — пакласці ў аснову пасляваеннай савецка-польскай мяжы «Лінію Керзана».

Польшча, дарэчы, магла страціць на карысць БССР і УССР значна больш. На думку некаторых гісторыкаў, адмова Сталіна ад Падляшскага і Беластоцкага рэгіёнаў, Пшэмысля і Хелма адбылася ў абмен на далучэнне да СССР часткі Усходняй Прусіі з Кёнігсбергам (першапачаткова меркавалася, што ўся Усходняя Прусія будзе належаць Польшчы). Дарэчы, тэма прыналежнасці пералічаных польскіх раёнаў зноў набыла актуальнасць у 1956 годзе, калі Польшчу ахапілі хваляванні. У гэты час Мікіта Хрушчоў пагражаў Варшаве, «у выпадку спробы Польшчы пакінуць лагер сацыялістычных дзяржаваў», анексіяй часткі спрэчных тэрыторый.

Падаецца, пасля 1956 года заклікаў рэвізіі «лініі Керзана» не было. Хіба што іх можна было пачуць з боку часткі польскіх і ўкраінскіх нацыяналістаў, аднак гэта, хутчэй, — галасы маргінэсу. Спадчына брытанскага лорда, напэўна, сапраўды не ідэальная, аднак дзе вы бачылі мяжу, якая б усім падабалася?


Фота www.tbn-tv.com

# Першая евангелісцкая рэвалюцыя

Алег НОВІКАЎ

**Падзеі ў Балівіі азначаюць выхад на палітычную арэну, прынамсі на рэгіянальным, лацінаамерыканскім узроўні, новай уплывовай сілы — евангелістаў.**

«Біблія вяртаецца ў (прэзідэнцкі) палац», — сказала часовая прэзідэнтка Балівіі Жанін Аньес, калі ўступіла на пасаду 12 лістапада. За некалькі дзён да гэтага Луіс Фернанда Камача, адзін з галоўных правадыроў паўстання, які прывёў да адстаўкі Эва Маралеса, прынёс Біблію ў той жа будынак, каб заявіць: «Бог вернецца ва ўрад».

Такія сеансы клерыкалізму, безумоўна, не выпадковыя. І Аньес, і Камача адрасавалі свае прамовы вернікам. У тым ліку евангелістам, якія аказаліся ў авангардзе перавароту. Неўзабаве пасля прэзідэнцкіх выбараў 20 кастрычніка лідары царквы «Нацыянальная хрысціянская рада» першымі заклікалі да супраціву і мабілізацыі супраць «карумпаванага ўрада» і «фальсіфікатара выбараў» Эва Маралеса. З часам, як вядома, іх падтрымалі сілавікі, якія прымусілі Маралеса сысці ў адстаўку ды збегчы ў Мексіку.

Балівія — не адзіная краіна, дзе цэнтры евангелістаў апошнім часам моцна ўплываюць на палітычны працэс. У Бразіліі евангелісты — галоўная электаральная база правапапулісцкага прэзідэнта Жаіра Балсанару. А ў Мексіцы заснаваная пастарам пяцідзясятнікаў партыя, наадварот, дапамагла перамагчы на прэзідэнцкіх выбарах леваму кандыдату Андрэсу Лопесу.

Як адзначае BBC, «моцны ўплыў евангелістаў на ўздым і крах палітычных рэжымаў — адна з галоўных тэндэнцый цяперашняй палітыкі ў Лацінскай Амерыцы». Так, у той самай Лацінскай Амерыцы, дзе яшчэ ўчора татальна панаваў каталіцызм. На 1960 год, нагадаем, 94 працэнты жыхароў кантынента былі вернікамі Касцёлу.

Палітолагі выяўляюць некалькі прычынаў, якія абумовілі экспансію пратэстантызму. Гэта менш жорсткія, чым у Касцёле, крытэры для кандыдатаў у святары, што пашырае прадстаўніцтва ў кліры самых бедных пластоў насельніцтва. Калі верыць нямецкаму выданню Junge Welt, часам пастарам можна стаць, калі праслухаць невялікі курс лекцый. Значная перавага пратэстантаў заключаецца ў тым, што пастыры могуць жаніцца.

**Моцны ўплыў евангелістаў на ўздым і крах палітычных рэжымаў — адна з галоўных тэндэнцый цяперашняй палітыкі ў Лацінскай Амерыцы**

У параўнанні з імі каталіцкі святар выглядае прадстаўніком далёкай ад народу эліты. Папулярнасці пратэстантаў спрыяе дзейнасць сетак сацыяльнай і медыцынскай падтрымкі для маргіналізаваных грамадзян.

Прыкладам папулярызацыі евангелістаў можа быць усё тая ж Балівія, дзе яны з'явіліся толькі ў 1906-м. Доўгі час рух заставаўся практычна непрыкметным, але на мяжы стагоддзя кола евангелістаў пачало імкліва пашырацца. На 2013 год у краіне было ўжо каля 17 працэнтаў пратэстантаў. Пры гэтым у палітычным плане яны займаюць дастаткова правыя пазіцыі. Лідары евангелістаў выступалі супраць прагрэсіўнага заканадаўства аб свабодзе веравызнання, гендарнай роўнасці альбо рэформы закона аб лібералізацыі абортаў.

Вельмі асцярожна яны ставяцца да індзейцаў і іх культурных забабонаў. Палітыка Маралеса, накіраваная на ўзняцце статусу індзейскай спадчыны, разглядалася як латэнтная рэабілітацыя паганства.

У гэтым плане канчаткова не зразумела, наколькі дэмакратычны праект адпавядае ўяўленням евангелістаў пра ідэальную мадэль грамадства. «Хрыстос прыйдзе, Бог вызваліць Балівію ад цемры і рабства (...) Мы хочам, каб слова Ісуса Хрыста панавала ў гэтым народзе. Гэта можа стаць рэальнасцю, калі мы вызвалім Балівію», — казалі яны падчас падзей у кастрычніку-лістападзе.

Адмаўляць балівійскім евангелістам у рашучасці і радыкалізме нельга. «Балівія цікавая тым, што гэта больш каталіцкая краіна, чым Бразілія. 70% балівійцаў з'яўляюцца каталікамі. Але ў працэсе адхілення Маралеса ад улады мы пабачылі больш моцны ўплыў евангелістаў», — прызнае BBC.

Між тым, 24 лістапада балівійскі парламент, дзе большасць належыць прыхільнікам Маралеса з партыі «Рух да сацыялізму» (MAS), прагаласаваў за правядзенне новых выбараў прэзідэнта. Пры гэтым правыя партыі — «Грамадзянскае аб'яднанне» і «Дэмакратычная хрысціянская партыя» — аказаліся не здольныя высунуць адзінага кандыдата. У той жа час MAS на сваім сходзе 8 снежня прадэманстраваў фенаменальнае адзінства. На 18 снежня яго дэлегаты прызначылі новы сход, які павінен абраць кандыдата на прэзідэнцкія выбары. Кіраўніком яго выбарчага штабу, як ужо вырашана, будзе Эва Маралес, які днямі перабраўся з Мексікі ў Аргенціну і яўна рыхтуецца да вяртання на радзіму.

Наўрад ці арганізатары адстаўкі Маралеса так лёгка аддадуць уладу. Таму пра балівійскіх евангелістаў мы яшчэ пачуем.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Рустам Эмамалі Рахмон



Аўтары шэрагу публікацый сцвярджаюць, што мэр Душанбэ і сын 67-гадовага кіраўніка Таджыкістана Эмамалі Рахмона вось-вось прыйдзе на месца свайго бацькі.

Пра гэта, быццам, сведчыць візіт у суседні Узбекістан, дзе Рустам збіраўся наведаць калегу, мэра Ташкента. Аднак па ходзе візіту яго нечакана прыняў кіраўнік краіны Шаўкат Мірзіёеў. Гэтая сустрэча адразу дазволіла выказаць здагадку, што ў Таджыкістане пачынаецца транзіт улады, які скончыцца пасля выбараў прэзідэнта ў наступным годзе. Калі 32-гадовы Рустам стане прэзідэнтам, то Эмамалі Рахмон, хутчэй за ўсё, захавае за сабою галоўную ролю ў вызначэнні ўнутранай і знешняй палітыкі краіны. За ім, паводле Канстытуцыі, захоўваецца пажыццёвы тытул, магчымасць кантраляваць прыняцце ўсіх найважнейшых палітычных рашэнняў.

Зрэшты, транзітныя працэсы заўсёды патэнцыйна ўтрымліваюць у сабе верагоднасць разбалансавання палітычнай сістэмы і непрадказальнасць у паводзінах асобных фракцый палітычнай эліты. У дачыненні да Таджыкістана не выключаюць активізацыі пазбаўленых удзелу ва ўладзе кланаў, якія да таго ж, як правіла, маюць рэгіянальны характар. Яшчэ адной рызыкай можа стаць незадаволенасць сваякоў працоўных мігрантаў, чые грашовыя пераводы на радзіму дзяржава апошнім часам спрабуе абкласці падаткам.

### Віктар Орбан



Прэм'ер-міністр Венгрыі, лідар партыі Fidesz працягвае kulturkampf за нацыянальную ідэнтычнасць, ахвярамі чаго раней ужо сталі некаторыя дысцыпліны ў ВНУ і іх выкладчыкі. Цяпер урад вырашыў заняцца тэатрамі.

На разгляд парламенту 9 снежня быў прадстаўлены законапраект, які тычыцца парадку прызначэння рэжысёраў у муніцыпальныя і дзяржаўныя тэатры. Згодна з праектам, рэжысёраў павінны прызначаць дырэктары, якія, у сваю чаргу, будуць падпарадкоўвацца цэнтральнаму ўраду. «Дзяржава не можа падтрымліваць культурную ўстанову, не маючы права ведаць, як яна працуе», — растлумачыў ініцыятыву намеснік Орбана.

Грамадскасць адмоўна каментуе ідэю кантраляваць тэатры. У Венгрыі тэатральная сцэна традыцыйна з'яўляецца адной з прастораў, вольных ад дыктату дзяржавы. Ужо ўвечары 9 снежня ў цэнтры Будапешту адбылася стыхійная маніфестацыя артыстаў, гледачоў і грамадзян, незадаволеных рэформай. Каб спыніць новы закон, артысты абяцаюць ператварыць усе тэатральныя выставы ў акцыі пратэсту. З іншага боку, Орбан не раз даводзіў на практыцы, што гатовы ігнараваць думку грамадзян, якія апаніруюць яго рэжыму.

### Уладзімір Зяленскі



Лічыцца, што прэзідэнт Украіны вытрымаў іспыт на саміце Нармандскай чацвёркі 9 снежня ў Парыжы. Ён не даў Пуціну навязаць расійскае бачанне мінскіх дамоваў, хаця і не дамогся іх рэдактуры на пытанні перадачы мяжы.

Акрамя таго, жорсткая пазіцыя Зяленскага прымусіла нацыяналістаў адмовіцца ад Майдана, які планаваўся ў выпадку «здрады». Праўда, ёсць думка, што Майдан не атрымаўся па іншых прычынах: Зяленскі, маўляў, патаемна дамовіўся з Парашэнкам, паабяцаўшы не даваць ход крымінальным справам супраць экс-прэзідэнта.

Так ці інакш, пасля 9 снежня ў гісторыі прэзідэнцкай кадэнцыі Зяленскага пачынаецца новы этап. Відавочна, што мір на Данбасе, які ён абяцаў падчас выбарчай кампаніі, адкладаецца на незразумелы тэрмін. Больш за тое, лексіка гаранта вельмі нагадвае словы яго папярэдніка Парашэнкі. Між тым, менавіта на пацыфісцкіх лозунгах шмат у чым трымаўся рэйтынг цяперашняга прэзідэнта. Надзея на мір кампенсавала шмат каму новыя тарыфы і непапулярную аграрную рэформу. У гэтым плане палітолагі чакаюць чарговага раўнду падзення папулярнасці Зяленскага, інтэнсіфікацыю пратэстаў, апагей якіх чакаецца ўвесну.


Пахаванне савецкіх агентаў


Пахаванне польскіх афіцэраў ля Навасёлак


Тая самая «Пагоня»

# «Я ніколі не прабачу бальшавікам іх злачынстваў»


Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Падзеі верасня 1939 года і саветызацыя заходніх абласцей БССР па сёння застаюцца малавядомымі старонкамі айчыннай мінуўшчыны. У гэтым кантэксце вялікую ролю адыгрываюць успаміны сведак эпохі, якія нягледзячы на свой узрост, могуць распавесці факты злачынстваў савецкай сістэмы. Адным з такіх людзей з'яўляецца 88-гадовы жыхар вёскі Малэйкаўшчына, што пад Лідай, Станіслаў Алаізавіч Ушакевіч. Ён спрычыніўся да аднаўлення шматлікіх гістарычных помнікаў і пахаванняў Лідчыны, а таксама прывёў у належны стан месца спачыну трох польскіх афіцэраў, якіх забілі чырвонаармейцы ў верасні 1939 года.**

## Вайсковае злачынства

«Калі 17 верасня 1939 года Саветы перайшлі мяжу, на кардоне былі баі. Але бальшавікі хутка прасоўваліся. Пад Лідай, у вёсцы Бердаўка, яны ўзялі ў палон польскіх афіцэраў і пагналі іх у горад. Калону суправаджалі жаўнеры НКУС, якія паводзілі сябе як злачынцы. Ля Навасёлак бальшавікі аддзялілі ад натоўпу чатырох чалавек і адвялі на ўзбочыну. Адзін з іх, польскі капітан, зразумеў, што справа пахне газай, — і пабег. Чырвонаармейцы стралялі, але не трапілі.

Трох, што засталіся, расстралялі побач з дарогай. Казалі, што з забітых знялі боты. Ахвяр тут жа закапалі, а пазней мясцовыя жыхары зрабілі там агароджу. Пасля вайны на месцы трагедыі павысякалі лес, і магіла была амаль знішчана.

Калі Савецкі Саюз разваліўся, я вырашыў аднавіць тое пахаванне. Першапачаткова магіла была "нагамі наперад", але потым мы зрабілі яе "да шашы". Калі шукаў дакладнае месца таго пахавання, то звярнуўся да аднаго, другога сведкі — і тыя паказалі месца. У мяне застаўся крыж, які я рыхтаваў на пахаванне брата, я яго прывёз на тое месца і паставіў», — узгадвае Станіслаў Алаізавіч.

Паводле ўспамінаў іншых мясцовых жыхароў, тады ахвярамі бальшавікоў сталі афіцэры польскага Корпуса аховы памежжа. Кажуць, што побач з магілай яшчэ доўга сядзеў службовы сабака, які чакаў гаспадароў.

## «Вызваліцелі» ідуць

У 1939 годзе Ушакевічу было 8 гадоў, але ён выдатна памятае падзеі, звязаныя з далучэннем Заходняй Беларусі да БССР.

«Я родам з-пад Юрацішак, з вёскі Такарышкі. Пакуль не пабудавалі новую трасу Гродна — Мінск, праз наш населены пункт ішла дарога на сталіцу Беларусі. Памятаю, як дрэнна былі апранутыя савецкія жаўнеры. Доўгія шынялі, будзёнаўкі, рамяні брызентавыя, абмоткі. Мой бацька да вайны служыў у польскім Корпусе аховы памежжа. Дык заўсёды казаў, што войска — твар дзяржавы. І калі мы ўбачылі гэтых "вызваліцеляў", то зразумелі, што нешта не тое адбываецца. Дарэчы, перад пачаткам Другой сусветнай вайны мой бацька зарабіў грошы і перакрыў дах нашай хаты бляхай. Калі гэта ўбачылі чырвонаармейцы, дык адразу пачалі крычаць, што мы "падкулачнікі". 18 верасня 1939-га ў нашай хаце стаў нейкі савецкі штаб. Мы размовы іх чулі. Па сёння памятаю, што адзін з афіцэраў, дарэчы з Мінска, усё хваліўся, што набыў тут боты. Для іх гэта было шчасце незямное», — адзначае суразмоўца.


Жонкі і афіцэры КАП у Глыбокім, 1930-я

## Бальшавіцкія агенты

У даваенны час сям'я Ушакевічаў жыла сапраўды на «мяжы цывілізацый».

«У гады Першай сусветнай вайны праз нашыя мясціны праходзіў руска-германскі фронт. Падчас аднаго з баёў палова вёскі згарэла. Немцы на галаву былі мацнейшыя за рускіх. Узвялі там умацаванні, пабудавалі вузкакалейку.

У выніку польска-бальшавіцкай вайны мы апынуліся ў Польшчы. У 1935 годзе нашая вёска пайшла на хутары. Людзі цешыліся, што ўрэшце асобна будуць гаспадарыць. Частка зямлі была ў полі, а частка — на багнах, ля Бярэзіны. Бацька мой тады атрымаў 12 гектараў. Дзед мой памёр рана, у 35 гадоў, яго ўкусіў шалёны сабака. Падчас Першай сусветнай ён быў фельчарам, і калі яго пакусалі, то сам лекаваўся. Паўгода працягнуў, цяжка паміраў. Майму бацьку давялося рана стаць на чале сям'і.

У 1930-я гады ў вёсцы былі два савецкія агенты — Ясь Гансоўскі і Кастусь Савіцкі. На няшчасце, гэта былі кумы майго бацькі. Яны "служылі" Савецкаму Саюзу. Людзі ў вёсцы бачылі, што гэтыя людзі аднекуль маюць нелегальныя даходы. І немалыя. (Дададзім, што бальшавікі сваім агентам плацілі вялікія грошы, і звычайна ў амерыканскіх доларах. — І.М.). Недалёка ад нас жыў рэзідэнт савецкай выведкі па прозвішчы Завадскі. Ён кіраваў падпольнай працай бальшавіцкіх агентаў з ліку мясцовых жыхароў. Гэты шпіён і завербаваў кумоў майго бацькі.

Польская ўлады і ксяндзы ў касцёлах казалі людзям, што савецкая ўлада грунтуецца на хлусні. Мой бацька адслужыў у КАП на мяжы з БССР і заўсёды казаў, што савецкая прапаганда хлусіць. Але ўсё роўна былі наіўныя людзі, хто верыў, што там, у Саветах, жывецца лепей, чым у Польшчы. Памятаю, бацька расказваў, што калі служыў памежнікам, то аднойчы ён з калегам нёс службу на мяжы, і тут ім на сустрэчу выйшаў савецкі памежны нарад. Вартавыя мяжы вырашылі... разам папаліць. "Капаўцы" дасталі папяросы, а савецкія "зялёныя фуражкі" пачалі рабіць самакруткі-карэньчыкі. Папалілі. А потым савецкія кажуць: "Вы прадаліся панам за гэтыя папяросы. Усё жыццё будзіце ў акупацыі. А мы, хоць і "карэньчыкі" палім, але лепей за вас жывем". Павярнуліся і пайшлі да сябе», — падкрэслівае спадар Ушакевіч.

Калі 17 верасня 1939 года Чырвоная Армія перайшла мяжу, то Гансоўскі і Савіцкі селі на ровары і паехалі пад Валожын, сустракаць «чырвоных». «Яны чакалі бальшавікоў, верылі, што тыя ім рай прынясуць. А потым радасныя вярнуліся і паехалі ў маёнтак пана Вітальда Радкевіча, каб рабаваць. Сам гаспадар ужо паспеў збегчы, але ў Юрацішках яго забілі "рэўкамаўцы". Завадскі, што да вайны быў бальшавіцкім рэзідэнтам, стаў старшынёй сельсавета. А тыя два агенты з нашай вёскі, што "чакалі на рускія танкі", потым бальшавікам былі ўжо непатрэбныя. Яны думалі, што кар'еру зробяць, але тут ужо прыехалі чыноўнікі з усходу, і пра гэтых "змагароў супраць панскай улады" ўсе забылі. А калі немцы прыйшлі, то пра Савіцкага і Гансоўскага ўзгадалі. Увосень 1941 года абодвух арыштавалі і расстралялі як бальшавікоў».

## Першае кола пекла

Па меркаванні Станіслава Алаізавіча, адной з самых жудасных старонак перыяду саветызацыі заходніх абласцей БССР была дэпартацыя насельніцтва ў 1940 годзе.

«Тут шмат палякаў жыло. Настаўнік, напрыклад, быў з Польшчы. Ён быў адстаўным афіцэрам, а калі пачалася вайна, то яго мабілізавалі ў войска. А сям'я — жонка і дзеці — засталася ў Такарышках. Саветы, як прыйшлі, хутка адмянілі польскія грошы. Людзі не мелі за што набыць ежу. Ім мясцовыя жыхары дапамагалі. У Юрацішках, у былым панскім доме, размясціўся НКУС. У лютым 1940 года туды бацьку выклікалі. Там кожныя суткі павінны былі прыязджаць па тры вазы з розных вёсак. З будынку выходзіў нкусавец у суправаджэнні чырвонаармейцаў, садзіўся і ехаў на арышт "ворагаў народа". І вось 10 лютага бацька прыехаў у Юрацішкі, а там — дзясяткі вазоў стаяць. Ён тады зразумеў, што нешта кепскае адбываецца. Тут да будынку пад'ехала машына, з якой выйшлі нкусаўцы і пайшлі ў будынак. А праз гадзіну выходзяць і пачынаюць называць вёскі, а людзі, што прыехалі з вазамі, павінны казаць, адкуль яны. Прагучала: "Такарышкі!". Бацька адказаў, што ён адтуль. Селі да яго нкусаўцы і паехалі. А бацька баяўся, думаў, можа за сваёй сям'ёй едзе, можа яго будуць арыштоўваць. Прыехалі на месца — і нкусаўцы яго пытаюць: "Ведаеш, дзе жыве сям'я былога польскага настаўніка?" Ён, зразумела, ведаў. Прыехалі яны і пачаліператрус. Трое дзяцей маленькіх, жонка настаўніка, мароз за трыццаць градусаў, чырвонаармейцы з вінтоўкамі, на якіх штыкі. Такая жудасная карціна. Мы, вясковыя, цёплыя рэчы мелі, а ў іх, гарадскіх, былі лёгкія рэчы, восеньскія. Бацька павёз гэтую сям'ю, а потым вярнуўся да дому і кажа: "Што ж гэта робіцца?! Там эшалон у Юрацішках, і людзей сем'ямі грузяць у вагоны". Мне тады забаранілі ў школе гаварыць пра гэта. Але пра дэпартацыі казалі паўсюль, бо вывозілі з усіх вёсак. Тая сям'я настаўніка так і знікла. Хутчэй за ўсё, загінулі. Я потым пытаўся шукаць іх сляды, але нічога не знайшоў. Жудасныя часы былі. Я ніколі не прабачу бальшавікам іх злачынстваў», — кажа Станіслаў Ушакевіч.

Калі ўжо выходзілі з хаты, то на адной са сцен яго дома ўбачылі... герб «Пагоню». «А гэта наш сапраўдны сімвал. Некалі вісеў у сельсавеце. А потым загадалі прыбраць. Там ён не можа вісець, а ў мяне дома ніхто не забароніць, бо гэта нашае».

Колькі ўсяго давялося перажыць жыхарам Беларусі падчас Другой сусветнай вайны. Цяжка нават уявіць, праз якія выпрабаванні праходзілі людзі. Але пра тую жудасць варта памятаць і захаваць гістарычную праўду. Толькі так мы ўратуемся ад паўтарэння тых жахаў.

Фота з архіву Ігара Мельнікава

# Дасюль не адзначанае свята

Уладзіслаў ГАРБАЦКІ

**Летась Беларусь забыла адзначыць важны дзень — калі беларускі ўпершыню атрымалі права голасу на выбарах. Нашы суседзі — палякі, літоўцы — адзначылі падобнае свята акцыямі, канферэнцыямі, публікацыяй часопісаў і кніг. Некаторыя беларусы адзначылі стагоддзе БНР, але цалкам забылі дадаткова такую падзею, як пашырэнне палітычных правоў кабетаў.**





Беларуская дэлегацыя, якая прысутнічала на IV губернскім з'ездзе работніц і сялянак у Маскве 8 сакавіка 1925 года. Прозвішчы і імёны не вядомыя

Мясцовыя феміністкі таксама не адзначылі важную падзею — падзабылі, хоць добра ведаюць пры гэтым гады атрымання права голасу жанчынамі ў суседняй Расіі ці далёкіх ЗША.

З невялічкім спазненнем выпраўляем хібу, вяртаем Беларусі яшчэ адно свята, яшчэ адну важную дату з гісторыі мясцовага фемінізму, яшчэ адну нагоду ўхвалы роўнасці, што, між іншым, стала мажлівай дзякуючы абвяшчэнню БНР.

Беларуская Народная Рэспубліка сталася першай уласнабеларускай і незалежніцкай інстытуцыяй, якая ўпершыню абвясціла «агульнае, роўнае, простае і патаемнае выбарчае права, не рахуючыся з нацыянальнасцю, рэлігіяй і полам». Такім парадкам, як вынікала з Першай Устаўной Граматы БНР, 21 лютага 1918 года ўпершыню беларускі атрымалі права голасу і ўдзелу ў выбарах. Іншая рэч, што, з улікам войнаў і разбурэнняў, яны не змаглі паўдзельнічаць у рэальных выбарах, аднак публічна было абвешчана пра важнае гендарнае зварушэнне.

Сімвалічна важным і дасюль уплывовым можа быць гэты дзень у гісторыі Беларусі — у гісторыі беларускага фемінізму дакладна — 21 лютага 1918 года. 9 сакавіка 1918 года Другая Устаўная Грамата да народаў Беларусі пацвердзіла «агульнае, роўнае, простае, патаемнае, прапарцыйнае выбарчае права, не зважаючы на род, народнасць і рэлігію» (пункт 2 Граматы). Зрэшты, Трэцяя Устаўная Грамата БНР ад 25 сакавіка 1918 года пацвердзіла ўсе тыя правы і вольнасці грамадзянаў, абвешчаныя папярэднімі граматамі.

Пэўная гендарная адкрытасць бацькоў дзяржаўнасці таксама выявілася ў тым, што ў склад ураду БНР увайшла жанчына — першая беларуская сучасная публічная дзеячка, міністарка Палута Бадунова. Для параўнання, у БССР першай міністаркай у 1920 годзе стала Марыя Фрумкіна, якая ачоліла Наркам асветы.

Паралельна савецкая гістарыяграфія і міфаграфія маглі прапанаваць свае даты эмансіпацыі, што і рабілася на пачатку існавання СССР/БССР. Аднак бальшавіцкія «аўтаномна-вольныя» візіі Беларусі ў межах Расіі (Беларускі Нацыянальны Камітэт 25 сакавіка 1917-га, Выканаўчы Камітэт Вялікай Беларускай Рады, кастрычнік 1917-га, Беларускі Абласны Камітэт пры Усерасійскім Савеце Сялянскіх дэпутатаў, 17 лістапада 1917-га) спачатку папросту замоўчвалі тэму выбараў, і тым больш удзелу ў іх жанчын. У тэкстах не было ані слова пра выбары і пра спосаб галасавання, заклікі афармляліся аднабакова, кшталту «Браты-беларусы!». Трэба было гадаць, ці беларускі падразумяваліся пад гэтым заклікам.

Урад Керанскага ў гэтым пытанні быў значна ліберальнейшы і смялейшы: 20 ліпеня 1917 года расійскі Часовы ўрад прапанаваў агульнае выбарчае права, не зважаючы на пол. Але ўсе гэтыя спробы і дэкларацыі тычыліся хіба расійскага грамадства.

У даведніках, а таксама ў віртуальных энцыклапедыях кшталту Вікіпедыі дамінуе памылковае сцверджанне пра тое, што беларускі атрымалі права голасу ў 1919 годзе. Часткова гэта так, але тое ўжо стане другой спробай пашырэння палітычных правоў беларусак і ўніверсалізацыі выбарчага права. У лютым 1919 года падчас I Усебеларускага З'езду Саветаў беларускі, нібыта, змаглі скарыстацца гэтым правам, але варта пазначыць, што гэта былі не зусім выбары, а, хутчэй, дэлегаванне, прызначэнне. Плюс дасюль застаюцца невядомымі імёны першых нашых дэпутатак.

Кур'ёз палягае таксама ў тым, што Першы З'езд Саветаў Беларусі, а потым і Першая Канстытуцыя, ані словам не прыгадалі выбарчае права, што прадэманстравала сапраўднае псеўдадэмакратычнае аблічча дыктатуры пралетарыяту. Завуалявана Канстытуцыя РСФСР 1918 года, у якой падрабязна апісвалася актыўнае і пасіўнае выбарчае права (раздзел 4), у тым ліку права голасу жанчынаў, натхняла аўтараў першай Канстытуцыі Беларусі і вызначала асноўныя лініі тэксту. Аднак аўтары ці, хутчэй, кампілятары першай Канстытуцыі Беларусі не перанеслі чацвёртага раздзелу ў беларускі тэкст. Удакладненне аб выбарчым праве, а таксама аб праве жанчынаў удзельнічаць у выбарах, з'явіцца толькі ў Канстытуцыі БССР 1927 года.

У БССР палітыка працягвала асацыявацца з мужчынамі, рэдкія кабеты ў складзе беларускага ўраду (М. Фрумкіна, Е. Уралава, Н. Грэкава і нават найпершая П. Бадунова ў складзе ўраду БНР) застануцца малавядомыя бальшыні, а тым больш невядомымі застаюцца імёны першых дэпутатак. Цікава, што ў кнігах, прысвечаных жанчынам і дасягненням камунізму ў пытанні эмансіпацыі жанчынаў, выдадзеных у БССР да і пасля вайны, дэлегаткі і дэпутаткі часта падаюцца без імёнаў: каля фота так і пазначана: «прозвішчы і імёны не вядомыя». Такім парадкам, жанчыны, дэлегаваныя ў публічную сферу, застаюцца ў савецкай традыцыі нябачныя, невядомыя, безаблічныя.

Цьмянасць пытання жаночага выбарчага права ў першыя гады савецкай Беларусі, яго нерэальнасць, сімвалічны характар і адарванасць ад рэальнага ўплыву дэпутатаў (як мужчынаў, так і жанчынаў) на палітычны працэс і грамадства часткова тлумачаць, чаму сучасныя беларусы не надаюць значэння гэтаму элементу гісторыі і культуры. Сапраўды, калі ўзгадаць трапнае сцверджанне гендарнай даследніцы Алены Гапавай, што ў БССР «беларусы і беларускі былі роўныя ў бяспраўі», можна лепей зразумець: далучэнне кабетаў да кола выбарнікаў, насамрэч, нічога не мяняла ў пытанні прыняцця рэальных рашэнняў.

У незалежнай Беларусі палітычныя правы жанчынаў ніколі не ставіліся пад сумнеў, але і актыўным палітычным правам усё адно часцей карыстаюцца мужчыны: колькасць дэпутатак застаецца ніжэйшай за колькасць дэпутатаў, у нас ніколі не было прэм'ер-міністарак, а міністэрскія партфелі працягваюць дзяліцца традыцыйна і культурна абумоўлена (як і ў час БНР!): жанчынам даюць міністэрствы працы, сацыяльнага забеспячэння, інфармацыі ці аховы здароўя.

Тым не менш, сімвалічна важна ведаць, калі — хоць толькі і на паперы — беларускі атрымалі права голасу, калі пачалі галасаваць ці ўдзельнічаць у выбарах, якія часцяком нагадвалі фарс. Храналагічна першай датай эмансіпацыі і гендарнага зварушэння ў пытанні выбарчага права варта лічыць 21 лютага 1918 года, калі ўпершыню беларускам прапанавалі, надалі права голасу. Гэта яшчэ раз падкрэслівае дэмакратычнасць місіі БНР і агульнаеўрапейскую тэндэнцыю адкрыцця ў пытанні фемінізму, у якую ўпісваецца Беларусь. У 1918 годзе нашы суседкі — Літва, Польшча і Украіна — таксама надалі права голасу кабетам. А Латвія, Эстонія і Расія зрабілі гэта на год раней — у 1917-м.

Няхай запозненa, але беларускі фемінізм аднаўляе для сябе яшчэ адзін важны гістарычны арыенцір — дату, доўгія гады схаваную ад беларусаў, падзабытую, перакручаную і заганеную савецкай гістарыяграфіяй. Таму цяпер штогод 21 лютага мы можам віншаваць усіх з адноўленым святам.



# БагатаДата

**Дзень народзінаў першага кіраўніка незалежнай Беларусі і гадавіна ўвядзення наўпраставай цэнзуры ў нашай краіне. Што яшчэ адбылося ў мінулым у гэтыя дні?**

## 14 снежня

**1794.** Сталіца ВКЛ Вільняператворана ў цэнтр аднайменнай губерні ў складзе Расійскай імперыі.

## 15 снежня

**1859.** У Беластоку, які цяпер польскі, нарадзіўся лекар і лінгвіст Людвіг Заменгоф. Ён стварыў эсперанта — самую папулярную штучна сканструяваную міжнародную мову. У 1893–1897 гадах жыў у Гродне, дзе вёў прыватную лекарскую практыку ў афтальмалагічным кабінеце.

**1934.** У Мінску нарадзіўся былы старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч. Займаючы пасаду спікера парламента, ён напачатку 1990-х гадоў быў першым кіраўніком незалежнай Беларусі. У палітыку Шушкевіч прыйшоў з галоўнай ВНУ краіны — Белдзяржуніверсітэту, дзе працаваў прарэктарам па навуковай працы (сам ён — па адукацыі фізік). Подпіс Станіслава Шушкевіча стаіць на Белавежскіх пагадненнях, якія зафіксавалі распад СССР.





Сталіца ВКЛ Вільня

**1959.** У Мінску нарадзіўся баскетбольны трэнер Анатоль Буяльскі. Прывёў жаночую нацыянальную зборную нашай краіны да бронзавых медалёў на чэмпіянаце Еўропы–2007. Гадам пазней каманда пад яго кіраўніцтвам заваявала пуцёўку на Алімпійскія гульні і стала першай у гісторыі беларускага спорту камандай па гульнявых відах спорту, якая трапіла на летнія Алімпійскія гульні.

## 16 снежня

**1939.** У Мінску нарадзіўся філосаф, паэт, антыкамуністычны дысідэнт Алег Бембель. Творчы псеўданім — Зніч. Стаў вядомым пасля выдадзенай у 1985 годзе ў Лондане працы «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс» пра моўную сітуацыю ў БССР. Пасля гэтага яго выключылі з КПСС і звольнілі з Інстытута філасофіі і права. З другой паловы 1990-х гадоў Алег Бембель стаў манахам Жыровіцкага манастыра, а затым — айцом Іаанам.

**1959.** У Слуцку на Міншчыне нарадзіўся Юрый Шаўцоў, гандбаліст і гандбольны трэнер. Алімпійскі чэмпіён і чэмпіён свету ў складзе зборнай СССР, шасціразовы ўладальнік еўракубкаў у складзе мінскага клуба СКА. У якасці трэнера выйграваў чэмпіянат Германіі. Цяпер — галоўны трэнер мужчынскай зборнай Беларусі.

## 17 снежня

**1924.** У БССР было прынята ўрадавае рашэнне пра стварэнне спецыяльнай установы для ўласнай кінавытворчасці — «Белдзяржкіно». Таму гэта дата — Дзень беларускага кіно. Спачатку выпускаліся навукова-папулярныя фільмы і хроніка. Першым мастацкім фільмам у 1926 годзе стала «Лясная быль» рэжысёра Юрыя Тарыча па аповесці Міхася Чарота «Свінапас».

**1939.** У вёсцы Касачы Сенненскага раёна на Віцебшчыне нарадзіўся вядомы палітык першай паловы 1990-х гадоў Уладзімір Заблоцкі. Дэпутат Вярхоўнага Савета і прэм'ер Ценявога ўраду Апазіцыі БНФ.

## 18 снежня

**Міжнародны дзень мігранта.** У гэты дзень у 1990 годзе ААН прыняла Канвенцыю аб абароне правоў усіх працоўных-мігрантаў ды іх сем'яў.

## 19 снежня

**1934.** У вёсцы Жарабковічы Ляхавіцкага раёна на Брэстчыне нарадзіўся вядомы генетык, антраполаг Аляксей Мікуліч. Паводле яго даследаванняў, беларусы не падобныя па генатыпе на рускіх. У прыватнасці, у крыві жыхароў нашай краіны, у адрозненне ад суседзяў, практычна не сустракаецца мангалоідная кампанента. Мікуліч даводзіць, што беларусы — вельмі кампактны і цэласны этнас: мы жывем на гэтай тэрыторыі ўжо амаль 150 пакаленняў.

## 20 снежня

**1994.** Дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі Сяргей Антончык зачытаў у парламенце знакаміты антыкарупцыйны даклад, які прымусіў Аляксандра Лукашэнку прылюдна плакаць. Гэты даклад быў першай ластаўкай, што пазначыла краіну, у якой мы жывем. Менавіта тады была ўвэдзеная цэнзура — газеты выйшлі з белымі плямамі на тым месцы, дзе павінен быў друкавацца тэкст даклада Антончыка.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №2038

Падпісана да друку 13.12.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.